# БЕЛАРУСКІ ПАРАДАК

Сяргей Паўлоўскі

Гэта тое, што сёньня мусіць быць вымаўлена, асэнсавана і ўсталявана — беларускі парадак.

## Вымаўленьне

Адмова ўсеахопнага савецкага ладу ў людзкой сьвядомасьці сталася адмовай любых формаў арганізацыі жыцьця грамадзтва. Але грамадзтва не йснуе бяз формаў, аксыёмаў, сыстэмы. Пэўная гармонія тут — гэта найперш пэўны парадак. Мы дамовіліся, што гэта — белае, а гэта — чорнае, гэта — наша, а гэта — чужое, гэта — карыснае, а гэта — шкоднае. Рэч у тым, каб гэты парадак быў адпаведны гэтай зямлі, гэтай традыцыі, гэтаму народу.

Інтэрнацыяналізм — вось разбуральная стыхія, якая падлягае адмове. Нельга любіць іншага чалавека больш за свайго толькі за тое, што ён належыць да іншае нацыі. Інтэрнацыяналізм разбурае самазнаходжаньне чалавека ў сваёй сям'і, сваім родзе, сваёй супольнасьці, нацыі.

Парадак — завядзёнка, звычай, лад. «Раней было ясна — мы жылі пры сацыялізме, а цяпер што? І што мусіць быць?..»

Парадак у маім жыцьці, маім доме, маёй вёсцы ці маім горадзе, у маёй краіне. Калі гэтага няма — ня ладзіцца нічога. Усе гавораць, але ніхто нікога ня слухае. Пануе адчуваньне бязладзьдзя, і заклапочанасьць патрэбай парадку пранікае туды, дзе яе не павінна быць — у развагі мысьляра, у творы мастака, у інтанацыі настаўніка, у рухі лекара. Людзі выходзяць на пляц і, забываючыся пра сваю працу, гатовыя разьдзіраць іншых людзей на кавалкі. Пануе злачынец, хам, дзікун.

Як і кожны парадак, беларускі — жаданы й няўмольны. Досыць развалу, цынізму й дылетанцтва там, дзе мусіць быць выразнае ўяўленьне пра дабро гэтага народу на гэтай зямлі. Досыць блытаніны сфэраў і жанраў. Нацыянальная сьвядомасьць — гэта дысцыпліна нацыі. Самая разьвітая дэмакратыя стаіць на груньце дысцыпліны й нацыянальных інтарэсаў. Калі ў беларускім доме нехта супраць беларускага парадку — ён за бязладзьдзе, і вольны выбіраць сабе іншы дом. Астатнія ня мусяць яго цярпець. Гэты народ выпакутаваў свой сёньняшні дзень не для таго, каб атрымаць свабоду хамства й зьнявагі сябе, сваіх сымболяў і свае мовы.

Свабода ня ёсьць правам беспакарана паскудзіць зямлю, зьневажаць людзей і дзяржаву. Гэта ня права палітыка на глупства, лекара на хабар, а гандляра на падман. Гэта ня ёсьць вызваленьне дзікага інстынкту й грубае сілы.

Свабода — гэта непадзельная адказнасьць чалавека. Гэта гварантыя ад скрайнасьцяў. Скрайнія сыстэмы — камунізм і фашызм — патрабавалі «сознательной дисциплины», адабраўшы ў чалавека ўсю ягоную адказнасьць перад сабою. Сёньня мінулы страх перад камунізмам і фашызмам трансфармаваўся для многіх у страх перад любым парадкам. Але ў кожнай зьявы ёсьць свая норма й мера. Якраз у меры парадку ёсьць гармонія грамадзкага існаваньня. Хопіць некалькіх гадоў, каб пераканацца, што сёньняшняя бязладная мітрэнга — нічым ня лепш за таталітарызм, бо гэта два бакі аднаго мэдаля. І гэты мэдаль — усё яшчэ на нашай шыі.

## Асэнсаваньне

Слова «адраджэньне» зьвязваюць звычайна са словамі: культура, нацыя, Беларусь. Але ўсё, што мы можам адрадзіць — гэта нацыянальная прырода, якой мы ня ведаем. Пакуль мы яе толькі адчуваем. Элемэнты нацыі, культуры, краіны, якія вядомыя нам з гісторыі, не падлягаюць адраджэньню, бо яны нікуды не зьнікалі.

Гаворачы пра адраджэньне, мы спрабуем стварыць на пустым месцы нешта зусім новае й прыватнае, бо цэлае — пэўны парадак жыцьця, ідэалёгія, вобраз — уяўляюцца нам у лепшым выпадку па-рознаму, а найчасьцей — ніяк.

Гаворачы пра адраджэньне, адзін заняты асьветніцтвам, другі лібэралізмам, трэйці камунізмам, бо гэта ясьней, чым Беларусь. Тыя працуюць на ніве праваслаўя, гэтыя — каталіцтва, трэйція — уніяцтва, паганства... Бо гэта ясьней, чым Беларусь. Сябруюць хто з Польшчай, хто з Расеяй, — бо гэта зноў ясьней, чым Беларусь. І кожнаму дзеля ягонай пазыцыі хапае аргумэнтаў гісторыі, лічбаў статыстыкі й аздобаў культуры Беларусі. Але не пяройдзены яшчэ той бар'ер, калі па-беларуску «загаворыць народ», і нікчэмныя высілкі нацыянальнага папулізму. Нельга на Беларусі чакаць грамадзкага выніку, калі няма беларускага парадку.

Парадак жыцьця ў Польшчы не такі, як у Чэхіі, а там — не такі, як у Румыніі. Парадак жыцьця ўзыходзіць да нацыянальнай прыроды. Гэтым уласна й адрозьніваюцца розныя краіны, бо з гэтага вынікае іх розны вобраз.

## Усталяваньне

Беларусь мусіць выявіцца, якая яна краіна, якая яе прырода — рахманая ці жорсткая, імклівая ці марудлівая, разумная ці не зусім. Вобраз краіны ствараюць яе палітыкі — людзі, якія сядзяць у парляманьце. Сёньня палітыкі Беларусі робяць «як набяжыць» ці «абы добра», пры гэтым «добра» кожны разумее па-свойму, і ці ня з гэтых добрых намераў выбрукоўваецца наш шлях у пекла? Вобраз будзе адпаведны, калі ў беларускім парляманьце будуць працаваць людзі беларускае прыроды. Ужо пасьля яны высьвятляць, хто зь іх «белы», а хто «чырвоны». Калі дазволіць час, беларускі парадак усталююць беларускія людзі. Іншага мэханізму няма.

Што ўзыйдзе з таго, што сеецца сёньня — ніхто ня скажа. Ясна, што на зьмену папярэднім ідэалам мусяць прыйсьці новыя. Калі ня прыйдуць свае — прыйдуць чужыя. І зноў разваліцца ВКЛ.

Яшчэ ніколі й нідзе маса не набывала якасьці нацыі бяз жорсткай самаарганізацыі, безь дзяржаўнае ідэалёгіі, без усталяваньня права большасьці, без прыярытэту нацыянальных інтарэсаў. Няма іншага шляху з развалу й дэмаралізацыі. І таму ўжо цяпер трэба думаць, як пазьбегнуць памылак іншых, як пазьбегнуць скрайнасьцяў. Дзеля гэтага найперш трэба пазбыцца ілюзій.

Нас не чакае свая грамадзянская вайна. Нас не чакаюць і аксамітныя ці сьпеўныя рэвалюцыі. Нас не чакае й марудлівае ўрастаньне ў беларускі лад, сымптомы якога ёсьць сёньня, але дзеля якога трэба час і трэба — усё адно — пераадолець бар'ер. Гэта блага, што нас нічога не чакае. Гэта значыць, што зноў дачакаемся мы. Магчыма, — таго парадку, які праз кроў усталюецца ў Расеі, бо ў нас няма яшчэ мэханізму ўсталяваньня свайго, яшчэ няма сваіх палітыкаў.

Што будзе кінута на гэты бар'ер на шляху эвалюцыі? Якія ўжытыя сродкі й сілы? Я бачу народныя дружыны й беларускае войска, якое пра «суворовские традиции» ведае праўду. Я бачу абавязковы іспыт па мове, гісторыі й Канстытуцыі для тых, хто атрымлівае беларускае грамадзянства. Я бачу культ зямлі й продкаў, маці й працы, сям'і й супольнасьці. Я бачу павагу да нацыянальных сымболяў. Я бачу пляцы, вольныя ад ленінаў і калінінаў. Я бачу ўсеагульную Ўсебеларускую талаку, на якой наш народ прыбярэ свае дамы и заводы, свае гарады й вёскі ад сьведчаньняў расейскае, савецкае ды іншае чужое экспансіі.

У наш час на нашай зямлі аб'ектыўна ня можа быць вызначаная задача — будаваць у чыстым выглядзе грамадзтва дэмакратычнае або тыранічнае, сацыялістычнае або капіталістычнае. Некалі пра вынікі будаўніцтва скажуць гісторыкі. Усё што мы можам, мусім і будзем будаваць на Беларусі — гэта беларускі парадак.




Здымак Анатоля Клешчука.

# Хвedар НІЦКА

*Вершы з кнігі «Шарая гадзіна»*

* * *

Гадзіньнік спыніўся. У хісткім сутоньні
Ляжу і ніяк не магу зразумець:
Зара пазалоціць маё падваконьне
Ці ўвойдзе змрок ночы, халодны як сьмерць.

А прыцемак золкі захраснуў на месцы,
І доўжыцца-цьміцца чыясьці крутня.
Гадзіньнік спыніўся. І мне не даўмецца,
Чаго прычакаю: ці ночы, ці дня?

* * *

Бязмоўная пустка. Як сьветла й бяздомна.
Да неба — зьнелыя мхі
Пад выстылым сонцам. І стук непрытомны,
Стук сэрца далёкі, глухі.

Гэй, там, хоць хто-небудзь, скажыце мне, дзе я?
Як я апынуцца тут мог?
Ціхмень. Толькі сонца згасальна ірдзее
На срэбры, што ўсыпала мох.

А, зрэшты, навошта я кленчу ў адчаі:
Ці ж гэтага мала, што тут
Няма аніводнай травінкі звычайнай,
Сумненьняў няма і пакут?

* * *

Ну вось і адзін я ў бэтонных квадратах
Пакояў сумежных ляжу ў забыцьці,
І зоркам дрыготкім у белых халатах
Праз неварацць шкла да мяне не ўвайсьці.

Адхлынулі ў змрок акіяны лятункаў,
І холадна звонку, і гулка знутры,
І марна й няма дзе шукаць паратунку
Ад шчупальцаў, што працінаюць муры.

Бліжэй і выразьней кашчавыя пальцы
Жахлівых расьлінаў, што смокчуць цяпло...
Дык вось што такое каханьню паддацца,
Ня скінуць адразу пяшчоты сіло.

ВЯТРАК

Зноў чары Фрэстана. Падступны, тонкі ход:
Злых волатаў зрабіў ён ветракамі.
Махаюць прывіды магутнымі рукамі.
Згатовіўся да бойкі Дон Кіхот.

За куст! Хутчэй за куст, адданы Санча!
Зашыйся і праз гольле ў страху глянь
Туды, дзе твой няўрымсны пан на здань
На Расынаньце безразважна скача.

Рыпіць вятрак, працяты навылёт.
А ён страшыдлу дзідай дапатопнай
Малоціць — сам да ветрака падобны,
Высакародны, слаўны Дон Кіхот...

І я быў сьведкам, як ён на ламачча
У гневе струшчыў прывід зла — вятрак.
І доказ маю, што там быў — гузак
Ад Дон Кіхота, рыцара з Ля Манчы.

# ТРОХКУТНІК

*Працяг са старонкі 1.*

думалася. А ў майстэрні, за пляшкаю віна ўбачылася, што Вольга вельмі падобная да знакамітай Вэнэры, знойдзенай у Міласе. Вось так і знайшлася мая Вэнэра — Вольга Пакроўская. А Сержуку стала сумна з намі, ці біцылін так падзейнічаў. Ён сышоў. Мы дапілі віно, і я папрасіў дазволу правесьці Вольгу дамоў. Я першы раз праводзіў дзяўчыну дамоў. Толькі ня думай, што я такі быў затарможаны. й ніколі раней не праводзіў дзяўчат. Праводзіў сто разоў і нават цалаваўся, і ведаў, як расшпільваецца станік. Толькі ўсё папярэдняе рабілася дзеля іншага, дзеля пераадоленьня юнацкіх комплексаў, дзеля самасьцьверджаньня. А тут я адчуў, што ня толькі мне будзе прыемна. Мы йшлі па начным горадзе й гаварылі рознае глупства, і стаялі каля пад'езду. Тупа, да вар'яцтва, як у тэлесэрыялах. Я тады глядзеў на вокны. Вользіны былі на пятым паверсе. А на раніцу я зноў прыйшоў да гэтага пад'езду й глядзеў на вокны, толькі быў я цьвярозы й злы. І даў сабе слова болей з Вольгаю не сустракацца. Сьмешна атрымліваецца: сядзець за адным сталом і не сустракацца, але так яно й выйшла. Я хадзіў вечарамі глядзець на яе вокны, а ўдзень сядзеў побач і рабіў выгляд, што нічога не адбываецца. І Вольга рабіла выгляд, — яна потым расказвала. Мы сядзелі за адным сталом і рабілі выгляд. Ідыёты. Мы пакутвалі, ня хлушу. На вуліцы травень, нам па сямнаццаць. А мы робім абыякавыя твары. Увесь травень мы амаль і слова адзін адному не сказалі. Так і прамаўчалі да лета. А пасьля сэсіі разьехаліся ў розныя бакі. Цэлае лета са мною розныя гідкасьці-прыкрасьці здараліся, асабліва ў снох. Сьнілася злучэньне целаў і ўсё такое біялягічнае, жывёльнае, анатомія чалавека. Толькі лета ўсё што заўгодна лекуе. Таму ўвосень я ўжо не перажываў, калі даведаўся, што зьбіраць бульбу мы будзем у розных вёсках. Сярод дзяўчат на жывапісным былі таксама прыгожыя. А на вёсцы яно ўсё прасьцей, чым у горадзе. Сена, салома, коні, вогнішчы, віно... Усё зразумелае, намацальнае, бяз вокнаў на пятым паверсе. І ніякіх патрабаваньняў ні да іншых, ні да сябе. Я, слова гонару, і не паехаў бы ў тую вёску Вуглы, дзе Вольга працавала на кухні, каб Гэля Астравец не пабіла сабе копчык. Каталіся ўсе на дупах са стогу, вось жа не пашанцавала, зьехала якраз копчыкам на камень. Адкуль той камень у саломе зьявіўся? А яна на той камень якраз копчыкам. І ўсе сьмяюцца. Нехта, здаецца, Генадзь Чэх, ён самы майстар пакпіць, кажа: «Ты, Астравец, зламала хвост і стала чалавекам. Радуйся!» І Гэля засьмялялася, і нават не засаромелася сваіх гнілаватых пярэдніх зубоў. Так яна заўсёды іх губамі прыкрывала, калі казала «ох». У яе звычка была казаць «ох». А тут «ох», і копчыкам на камень. І ўсе сьмяюцца, і яна ляжыць на саломе й сьмяецца, выставіўшы рудыя драпежныя зубкі, а з вачэй кракадзілавы сьлёзы цякуць. І я пашкадаваў Гэлю, закрычаў, што трэба лекара выклікаць. А ўсе аж заходзяцца. Ну, які, скажыце, на вёсцы лекар? Да бліжэйшага тэлефона сем кілямэтраў. А я пабег да Алеся Ласевіча, ён добры, і якраз у той дзень на кані працаваў. Падбег і кажу: «Высыпай бульбу з воза!» — і так распсыхаваўся, ну, проста жах, са мной такое бывае, калі пачынаюць сьмяяцца, я тады зьвярэю. Вывернулі мы бульбу на полі, я схапіўся за аброць і падвёў каня да стогу. Накідаў поўны воз саломы й сказаў, каб Гэля лезла ў воз, бо павязу яе да лекара ў Вуглы. Верасьнёвы лес, сонца, ціха, толькі колы на карэньні гупаюць дый конь Арцём вецер пускае. Наеўся, гад, бульбы ды пускае смурод, хоць я да гэтага й нармалёва стаўлюся. Конь ёсьць конь, ён ня еў розных там яблыкаў з райскага дрэва і сораму не разумее, дзякуй богу. А вось Гаaя ўсю дарогу перажывала, што перад нейкім вясковым фэльчарам давядзецца распранацца й паказваць копчык. А мяне сьмех душыў, як уяўлю фэльчара, што абмацвае копчык. Толькі Астравец не дазволіла мне ў тую лякарню вясковую зайсьці. Лякарня, сьмех сказаць, нейкі кабінэцік у аднапавярховай пачатковай школцы. Я на вуліцы пастаяў і дзецям пазайздросьціў. Яны падчас перапынку ў двары гулялі, бегалі там у «квача» і ўсё такое. Я падумаў пра сваю дзявятую школу, пра яе цёмныя калідоры. Яе цяпер, дарэчы, у школу для дэбілаў ператварылі. І слушна. А я тады першы раз у жыцьці пашкадаваў, што вучыўся ў горадзе, а не на вёсцы. Калі Гэля выйшла на двор, яна йшла, як старая качка, перавальвалася з боку на бок. А я не ўсьміхнуўся, а толькі сказаў, што мы спозьнімся на абед і лепш паехаць паесьці да скульптараў. Гэля казала, што есьці ёй зусім ня хочацца, толькі я не паслухаў і павярнуў каня да сталоўкі, дзе кухаркай Вольга Пакроўская працавала. Яна нас пакарміла вараным мясам і кісяля наліла, і ўсё было б добра, каб не Сяржук. Ён узяў і сказаў мне, што Вольга закахалася ў вясковага агранома. Лепш бы ён мяне ўдарыў ці плюнуў мне ў твар, сапраўды, было б ня так балюча. А то ўсю дарогу з Вуглоў я ледзь ня плакаў. І не таму, што лічыў сябе лепшым за нейкага там агранома ці трактарыста, а проста хацелася плакаць, і ўсё. Толькі я саромеўся Гэлі, я ж ня конь, які псуе паветра й не саромеецца, я ж чалавек, хай сабе й ня лепшы за агранома зь вёскі Вуглы. Так я й не заплакаў. Але крыўда засталася, дробненькая такая крыўдачка. І не на Вольгу Пакроўскую, а на ўвесь сьвет і асабліва, чамусьці, на школьныя сьмярдзючыя калідоры з майго дзяцінства. Я са школы як выйшаў пасьля апошняга экзамэна, больш туды й не заходзіў. І не хацелася ні разу зайсьці. А ў мастацкую вучэльню з радасьцю хадзіў, і ўсё чакаў, пакуль заняткі пачнуцца. Вярнуліся з бульбы, тут мая галава й закруцілася. Натуральна, ні пра што думаць не магу. Ні пра жывапіс, ні пра малюнак і кніжкі пра розных там Сэзанаў і Радэнаў перастаў чытаць. І стрэліла ў маёй затлумленай галаве такая дурацкая думка: трэба запрасіць Вольгу ў тэатар. Я казаў, што тэлевізар не люблю, дык вось тэатар я ў мільён разоў больш ненавіджу. А тут пабег і ўзяў два квіткі на спэктакаль «Салдаты». І яшчэ ў касіркі спытаўся, ці добрая п'еса, а яна, дурніца расфарбаваная, свае вусны малінавыя падціснула й сказала, што п'еса бліскучая, і на прэм'еры драматург пачаставаў яе шампанскім. Які ж ён празорца, гэты драматург! Ну, проста Саламон. Вось так і трапіў я ў пастку. І з такім цудоўным настроем, бо Вольга адразу пагадзілася йсьці глядзець п'есу «Салдаты». А напярэдадні яна пафарбавала валасы ў чорны колер. Калі па шчырасьці, дык мне больш падабаліся яе сапраўдныя русыя валасы, якія былі ў яе ў траўні. А перад самай бульбаю яна іх выбеліла й закруціла ў дробныя-дробныя кудзеркі. І яе называлі «залатое руно». А ў тэатар я йшоў з брунэткай, такой вугальна-сіняй, такой яркай: вусны чырвоныя, а вочы шэрыя, сьветлыя... Сукенка на маёй тэатральнай спадарожніцы была цёмна-блакітная, нават сьветла-сіняя, і вельмі пасавала да чорнае фрызуры. І рыдыкюль і чаравічкі былі чорныя, скураныя і вельмі зграбныя, і ня скажаш, што Вольга скульптар, а ня графік. Зайшлі мы ў тэатар, ходзім па фае, а ў тэатры нікога няма. Да пачатку «Салдатаў» застаецца хвілінаў дваццаць, а ў тэатры толькі я й Вольга. Прыехалі, як кажуць. Толькі ж я яшчэ ня ведаў, на якую кірзовую вайсковую станцыю мы трапілі. Раптам у вэстыбюль пачалі заходзіць салдаты, і зусім не тэатральныя, а самыя сапраўдныя. І набілася іх поўны тэатар. Уяўляеш, поўны тэатар гімнасьцёрак і стрыжаных патыліц, а з цывільных толькі я, Вольга й кантралёркі. Мяне аж у пот кінула, ну так непрыемна, што проста жах. Ішоў зь дзяўчынаю ў тэатар, а трапіў у клюб вайсковае часткі. Мне захацелася выпіць, але як падумаў, што ў буфэце поўна сьмярдзючых вайскоўцаў, так адразу й перахацелася. Я павёў Вольгу ўздоўж сьцяны, а сам усё за дзьверы торгаў. У мяне новая ідэя зьявілася:

# Кнігі, набытыя ў Менску

**АНТАЛЁГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ.** У 3 т. — Менск: Мастацкая літаратура, 1993.

Нскалі Адам Глёбус давёў сваю перавагу расейскаму паэту-раўналетку наступным сказам: «Я буду друкавацца ў адных выданьнях з Купалам, а ты з Пушкіным — ніколі!». Нібы дзеля пацьверджаньня гэтае рацыі й зьявіліся тры тоўстыя тамы вершаў, дзе ёсьць і Глёбус, і Купала, і Кірыла Тураўскі... Дзеля чаго яшчэ выйшлі гэтыя тамы — я ня ведаю. Гэта не анталёгія як *суквецьце паэзіі*, бо сама паэзія тут не галоўнае, яе фатальна заглушае «антураж» — здымкі, біяграфіі, два-тры невядома як адабраныя вершы, — разьмешчаныя ў хранялягічным парадку датаў нараджэньня аўтараў... Магчыма, гэта апошні буйны выкід савецкага літаратуразнаўства, якое рабіла свой іерархічны адбор паводле чаго заўгодна, пры гэтым нязьменна грэбуючы густам, настроем, жывым дыханьнем паэзіі.

*Аглядальнік.*

**АСТРАВЕЦ Сяргей. Янычары:** Апавяданьні. Бібліятэка часопіса «Маладосць». Менск: Полымя, 1993. — 96 с.

Калі празаік не падобны да іншых — гэта яшчэ ня значыць, што ён нечага «шукае» ці «экспэрымэнтуе». І наадварот — натужны «пошук» можа прыводзіць да зусім банальных вынікаў. Астравец цалкам упісваецца ў тую беларускую літаратуру, якая прыйшла на вызваленую прастору, калі мур вакол сацыялістычнага рэалізму перастаў супадаць зь межамі гэтай літаратуры. Гэта была вучоба, а не экспэрымэнт. Але новая прастора запаўняецца хутка. Хутка сканчаецца фора, якую гісторыя дала ўсім «новым». У параўнаньні з сацрэалістамі (тут — «янычарамі») ім было дадзена больш — мовы, свабоды, нескарыстанага досьведу замежных літаратураў. Ім было дадзена пазначыць этап разьвітаньня з сацыялізмам — у знаках, настроях, сэнтэнцыях. Гэта наблізіла іх прозу да публіцыстыкі, але аддаліла ад безадноснае прыроды чалавека. І цяпер, калі ўсё вернецца на свае месцы, у свае сфэры й жанры, пытаньне да «новых» будзе гучаць інакш: ці стануць яны этапам у літаратуры ці толькі — радком пра этап?

*А-к.*

**БАЙКОЎ М. і НЕКРАШЭВІЧ С. Беларуска-расійскі слоўнік** (Менск, 1926). Факсымільнае выданьне. Менск: Народная асьвета, 1993. — 360 с.

**БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА Данута. Божа мой, Божа:** Вершы. — Менск: Беларуская Каталіцкая Грамада, 1993. — 64 с. Наклад 500.

Яшчэ ўчора заточаная ў ідэалягічную цэлю, беларуская паэзія мусіла ператварыцца ў штось зусім дэкаратыўнае, бессэнсоўнае, штось ні пра што. Але вось зьмяняюцца часы, прыціхла цэнзура, разбураецца старая ідэалёгія, новыя рэаліі зьявіліся ў жыцьці. І паэзія адчула патрэбу быць прачытанай і зразуметай. Адкрытая рэлігійнасьць, нацыяналізм, сялянская прастата — новае й выгоднае ў гэтым зборніку паэткі — тое, што лучыць яе вершы з традыцыяй Ларысы Геніюш.

*А-к.*

**ГРЫГАРОВІЧ І.І. Беларуская іерархія.** Менск: Беларуская Энцыкляпэдыя, 1992. — 102 с.

Гэта нечуваны ў беларускай гісторыяграфіі прыклад рэанімацыі рукапісу. Было вядома, што такі твор існаваў, ведалі й ягоную назву, але ён лічыўся страчаным. Таму знаходка тэксту ў фондах Расейскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пэтэрбургу мае пэўную сымболіку. А выданьне рукапісу запачатковае традыцыю — падобна, што нейкая колькасьць тэкстаў яшчэ чакае сваёй публікацыі. Нягледзячы на канфэсійную (праваслаўную) тэндэнцыйнасьць, кніжка мае й пэўныя універсалісцкія якасьці — усё ж гэта даведнік, зь пералікам аб'ектаў і прозьвішчаў, з хранялягічнаю вытрымкай і дакумэнтамі. Але над такімі кніжкамі вісіць таўро тэрміналёгіі. Іван Грыгаровіч апісваў менавіта гістарычную Беларусь — паўночна-ўсходні рэгіён краіны, і «епіскапію Беларускую, якая адна толькі заставалася праваслаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім». Таму слова «беларуская» ў назьве напачатку можа дэзынфармаваць. Затое адчувальнае ймкненьне аўтара як мага шырэй увесьці гэты тэрмін ня толькі для грамадзянскай гісторыі й мовы ("наречия"), але і ў дачыненьні да гісторыі царкоўнай. Між тым архірэі дадзенага рэгіёну афіцыйна беларускімі (ці толькі беларускімі) ніколі не называліся. І тут узьнікае пытаньне кантэксту. Выдаўцы зрабілі хіба залішне проста, назваўшы «Беларускую іерархію» адной зь першых цаглінак беларускай гісторыяграфіі. Але цалкам адмовіць гэтую тэзу не дае адно рытарычнае пытаньне — калі чалавек, беларус з паходжаньня, мае выразную рэгіянальную сьвядомасьць і моцную прарасейскую арыентацыю, ці пазбаўляецца ён права называцца беларускім дасьледнікам? На заканчэньне можна дадаць фразу аднаго з рэцэнзэнтаў рукапісу ў 1824 г. кіеўскага архіяпіскапа Яўгена Балхавіцінава: «... прапаную... Аб іерархічнай кнізе Вашай... наступныя заўвагі: 1. Што вера праваслаўная на Беларусі захавалася нязьменна. Вы ніжэй самі супярэчыце гэтаму». Заўвага падзеленая на два сказы. Нам цікава, што ў тэксьце кніжкі імплікаваныя палажэньні абодвух гэтых пазыцый.

*А.Д.*

**КАРПОВІЧ Л.Т., КАЗЫРА Л.А. Англа-беларускі слоўнік грамадзка-палітычнай лексыкі.** Менск: Навука і тэхніка, 1993.

На жаль, мы жывем яшчэ ў тую эпоху разьвіцьця нацыі, калі выхад любога слоўніка, а пагатоў перакладнога — падзея. Падзея й гэты, прыстойна складзены й выдадзены слоўнік. Непакоіць і засмучае наступнае: а) неабходнасьць у жанры «слоўніка грам.-паліт. лексыкі» вельмі сумлеўная, на тэрміналягічны ён усё ж ня цягне — ці ня лепш было яшчэ крыху напружыцца й выдаць «нармальны» слоўнік хоць бы на тыя самыя 15 тыс. словаў? б) «недакладнасьць» тэмы выклікае выпадковасьць падбору словаў, у выніку — з гэтым слоўнікам нялёгка чытаць нават наш тутэйшы *The Baltic Independent*. в) няўжо ў Беларусі колькасьць «навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў, студэнтаў, дыпляматаў, работнікаў сродкаў масавай інфармацыі» (гл. анатацыю) вымяраецца лічбаю 1870 (гл. наклад)?

*Архіварыюс.*

**КІСЯЛЁЎ Генадзь. Ад Чачота да Багушэвіча.** Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст. — Менск: Навука і тэхніка, 1993. — 397 с.

**ПІЛЬШТЫНОВА Саламея. Авантуры майго жыцьця:** Раман. Пераклад з польскай. Менск: Мастацкая літаратура, 1993. — 381 с.

---

зайсьці ў якую ложу. Хоць тут пашанцавала. У адну з ложаў мы ўсё ж патрапілі й селі ў досыць зручныя фатэлі. І мне зрабілася добра, хвілінаў пятнаццаць у мяне быў цудоўны настрой, бо, па-першае, я пазбавіўся ад радасьці бачыць савецкае войска, а па-другое, я трымаў за руку Вольгу. Як вёў яе ўздоўж сьцяны, так руку яе й ня выпусьціў, і яна не забірала. І мы сядзелі ў мяккіх фатэлях і глядзелі на чырвоную заслону. Пакуль яе не паднялі, я быў самы шчасьлівы чалавек, прынамсі ў менскім Тэатры юнага гледача. Але заслону паднялі. І калі ў цябе зьявіцца жаданьне сапсаваць каму-небудзь настрой, дык падары яму квіток на спэктакаль «Салдаты». А зьмест п'ескі я табе перакажу. Тры салдаты сядзяць і гавораць. Зь іх размоваў можна давядацца, што яны й не салдаты зусім, а салдацкія душы, хоць з выгляду яны ўсе шмэндрыкі-акторы, якіх пераапранулі ў форму, толькі форма на іх сядзіць па-дурному, бо яна ўся новенькая, толькі што з фабрыкі ці ад тэатральнага краўца, цяжка ў такіх выпадках быць дакладным. Гузікі на салдатах-душах-акторах блішчаць, папругі й боты парыпваюць, а мэдалі пазвоньваюць. А яны па чарзе ўстаюць і прагульваюцца па сцэне, як індыкі на падворку ў гаспадыні, у якой я жыў, калі бульбу капаў. Прагульваюцца салдаты і ўспамінаюць, хто як жыў, каго кахаў і дзе вучыўся да войска. І адзін з гэтых бутафорскіх салдатаў савецкага войска, вядома, грузін, другі — рускі, ён жа і беларус (у аўтара не праясьнена, ён зь нейкага памежнага мястэчка, здаецца, з Мсьціслава, і ўвесь час блытаецца, ці то кажа «ў нас рускіх», ці «а на Беларусі»), карацей, другі — савецкі чалавек без нацыянальнасьці, які, між іншым, вельмі любіць маці; а трэйці, як можна здагадацца — хахол. Потым да іх яшчэ падыйдзе чацьверты, ён, як высьвятліцца, каманьдзер танка й памёр у шпіталі, таму ягоная душа й спазьнілася да пачатку спэктаклю. І так хвілінаў дваццаць пяць яны разважалі, прахаджаліся й пакурвалі. Натуральна, палілі на сцэне, і дым цягнула ў залю, дзе сядзелі самыя сапраўдныя салдаты, якім захацелася курыць. Яны і ўставаць пачалі, і ў прыбіральню сыходзіць, яны ўсе сышлі б, каб афіцэр ня стаў на выхадзе й не пачаў сіпець. А я таксама зьбегаў пакурыць. А калі вярнуўся, на сцэне ўжо стаяла жанчына, як вынікла з размоваў — маці каманьдзера, душа якога спазьнілася на пачатак. Маці сказала салдатам-душам, што яна ганарыцца імі, бо яны героі. Здохнуць можна ад гэтага пафасу, ну, проста седзячы ў тэатральным фатэлі ўтрупянець і кончыцца, а не згарэць у танку, як выдуманыя драматургам салдаты. Гэта таксама я дазнаўся з гаварыльні. А згарэлі яны ў танку, бо танк перакуліўся, бо ішоў ён па горнай дарозе, а на дарогу выбегла дзяўчынка, а каманьдзер узяў на сябе ўсю адказнасьць, дзяўчынка засталася цэлая, а вось танк упаў са стромы на камяні, разьбіўся і ў дадатак згарэў, толькі каманьдзер пасьпеў вылезьці з ахопленай полымем баявой машыны, і яму яшчэ давялося пакутаваць і паміраць у шпіталі, дзе ў каманьдзера пасьпела закахацца мэдсястра, якая, калі ў сапраўдным жыцьці сьпіць, дык пераносіцца ў царства мёртвых, дзе прызнаецца ў каханьні да пакутніка-каманьдзера. Вось такая абракалабра з падтэкстам. Пра падтэкст скажу пазьней. Бо толькі мэдсястра прызнаецца ў каханьні й сыходзіць, як адзін з былых танкістаў, самы дробненькі, рускі-беларус, нахабна кажа быламу каманьдзеру, што ён героем быць ня хоча, і што каманьдзер быдла, бо загубіў з-за адной дзеўкі ажно чатыры душы. Дзіўна, што й на тым сьвеце званьні захоўваюць сілу. Дык вось, каманьдзер пачаў супакойваць байца рознымі развагамі пра каштоўнасьць чалавечага жыцьця. Толькі каштоўнасьць распаўсюджвалася адно на дзяцей, а салдат яна зусім ня тычылася. І тут упала заслона. Антракт. І сапраўдныя салдаты загулі, загаварылі ды пацягнуліся ў фае. А я з Вольгаю й ня выйшаў з ложы. І куды я мог выйсьці? У фае, дзе сто тысяч галодных салдацкіх вочак утаропіліся б на дзяўчыну? Не! Так і прасядзеў цэлы антракт, пасьля якога падзеі на сцэне цяклі наступным чынам: дробненькі, які не хацеў быць мёртвым героем, а хацеў быць жывым дзетазабойцам, намерваўся набіць морду каманьдзеру, але яго доўга не пускалі грузін з хахлом. Грузін гаварыў з грузінскім акцэнтам. Па-беларуску, і з грузінскім акцэнтам! Цырк, а не тэатар. А хахол увесь час укручваў украінскія прымаўкі. Трымалі яны, трымалі, гаварылі-гаварылі з акцэнтамі й прымаўкамі, а потым узялі й адпусьцілі. Пэўна, таксама хацелі быць жывымі дзетазабойцамі. А можа, і памыляюся. Дробненькі салдат схапіў сапёрную рыдлёўку й пайшоў секчы свайго каманьдзера. Але нясьпешна так сунуўся. Каб адчуваўся драматызм кульмінацыйнага моманту. Ну, і як ты разумееш, не засек ён нікога, савецкі салдат — добры салдат, ён нікога ніколі не засякаў сапёрнай рыдлёўкай, а тым больш свайго каманьдзера, які, між іншым, спаліў яго ў танку, але танкіст на тое й танкіст, каб згарэць у танку й стаць героем, а потым на тым сьвеце выкінуць сапёрную рыдлёўку й абняць свайго любімага каманьдзера, і яго сябры па польвігу таксама абнялі каманьдзера й акамянелі ў скульптурнай позе. Жывую скульптуру асьвяцілі чырвоным пражэктарам, і маці каманьдзера разам з закаханай мэдсястрой прынесьлі з-за сцэны і ўсклалі да ног герояў кветкі. І што тут пачалося, скажу — не паверыш. Авацыі, крыкі «біс» і «брава», нехта нават «ура» крыкнуў. Вось так: поўны аншляг, і ўсе задаволеныя. Сапраўдныя салдаты выспаліся й накурыліся ў прыбіральні, а несапраўдныя зарабілі свой кавалак хлеба. Незадаволены застаўся толькі я, бо Вольга мяне суцяшала. Я так расхваляваўся, што ты сабе не ўяўляеш. Са мною такое бывае, што пачынаю крычаць і пагражаць усім. А тады перад тэатрам я крычаў, што яны ўсе падонкі, і акторы, і рэжысэры, і драматург, і касіркі... Што салдаты падушылі людзей танкамі ў Чэхаславаччыне, і душаць у Афганістане... Вось, я пра падтэкст абяцаў сказаць, дык у п'есе ніводным словам ніхто не агаварыўся пра Афганістан, гэта аўтар у падтэкст хацеў загнаць, а загнаў ён туды... Ня буду гаварыць, я пра такое не люблю гаварыць, я, калі псыхую, наогул у палітыку ня лезу. Не люблю я палітыку, я люблю мастацтва й сэкс, і спорт, і сьпірт. І Вольга вельмі тактоўна выкарыстала маю любоў. Мы купілі дзьве зусім маленькія, па сто грамаў, бутэлечкі малдаўскага каньяку й расьпілі іх у двары на лаўцы. Двор быў стары, пах струхлелым дрэвам, і вакол нас ціха паблёсквалі канторскія вокны. Вольга сказала, што ад каньяку мне зробіцца цёпла й лёгка, і што яна любіць піць каньяк з рыльца маленькіх стограмовых бутэлечак, а навучыў яе піць каньяк Юра Палякоўскі. Я тады толькі зьдзівіўся, што выкладчык Палякоўскі навучыў сваю студэнтку піць з рыльца. Мне сапраўды зрабілася лёгка, я пацалаваў Вольгу й правёў яе дамоў, а потым доўга стаяў у двары каля трансфарматарнай будкі й глядзеў на яе цёплае вакно. Я ж і думаць ня думаў, што Юра Палякоўскі будзе працягваць вучыць Вольгу розным дзіўным штукам. Калі шчыра, дык было нешта неардынарнае ў гэтым Палякоўскім. Ён быў падобны да невялікага маладога мядзьведзя, асабліва калі ліха, па-цыркавому ўскокваў на спартовы ровар і са сьвістам вырульваў ад вучэльні праз арку на праспэкт. Акрамя гэтага ён любіў Мікеляндджэлё, страляў з луку, піў, як конь, і лічыўся вельмі пэрспэктыўным маладым талентам. Студэнты паважалі Палякоўскага, бо ў адрозьненьне ад большасьці глінамесаў ён ваяў спартоўцаў, а не герояў грамадзянскай вайны. Можна яшчэ расказаць пра Юру Палякоўскага, толькі я не люблю рабіць нечаканасьці там, дзе ня трэба. Таму адразу скажу, што Вольга Пакроўская раскручвала два раманы адначасова. Адзін са мной, а другі з Палякоўскім. Нашто ёй быў патрэбны

*Працяг на старонцы 6.*



Здымак Алены Адамчык.

# 1863

*Нататкі з альбому*

**Антон Сіюль**

Наведаўшы майстэрню мастака Савіцкага, прэм'ер Кебіч горача ўхваліў «Чарнобыльскі цыкль» і пажадаў мастаку далейшых посьпехаў. Другі мастак, Кішчанка, кажа, што ля ягонага габэлену пра Чарнобыль Бутрас Галі прыгаворваў: «Гэта Пікаса!..» Так сталася, што слова *Беларусь* трывала асацыюецца ў сьвеце з словам *Чарнобыль*.

Мастацтва кожнага разу альбо сьцьвярджае, альбо адмаўляе. Адмаўленьне без надзеі — разбуральнае. Расейскія перасоўнікі, пазбавіўшы сваё мастацтва думкі пра Эдэм, адабралі ў яго надзею. Пэсымізм не застрашаных пеклам будняў запрашаў глядача да самакатаваньня, — як катавалі перасоўнікі-жанрысты сваіх герояў. Хто гэтага не хацеў — заставаўся па-за ўплывамі Таварыства перасоўных выставаў.

Мэтафара пекла — пакута бяз мэты й канца, пакута сама па сабе. Яшчэ готыка, дорачы спадзеў, пароўну дзяліла кашмар пекла й райскае летуценьне. У мастацтве Эўропы XVII ст. пакуты набылі канкрэтныя межы, а экзальтацыя хрысьціянскіх пакутнікаў — спэктар пачуцьцяў. Асалода выраю стала люстэркам зямнога аптымізму. Разьняволеньне, схаванае за мярцьвянай чысьцінёй Рэнэсансу, бралася з народнай культуры. Сялянскасьць была мэтафарай кругазвароту плоднасьці, селянін — прататыпам сакавітых пэрсанажаў барока. Партрэта селяніна ў Рэнэсаньсе яшчэ не было. Мадоны ў выглядзе дамаў і дамы ў выглядзе мадонаў — ціхія й самотныя, далёкія ад гледача.

Гаварыць з гледачом моваю яго жаданьняў — прынцып мастацтва XVII ст. У Гальса мужыкі й бабы, афіцэр і цыганка сьмяюцца. Тлустыя дынамічныя пісягі ірвуць роўнядзь халста. У Ёрданса здаровы сэнс мяжуе з апалягетыкай здаровага харчаваньня. Яго сяляне ў «Бабовым каралі» ці «Сатыры ў гасьцёх...» — сытыя і ўпэўненыя ва ўласных сілах. Як і астатнія флямандцы, ён любіў свой народ артыстычна. Галяндцы ж імкнуліся павучаць, як жыць прыгожа й чыста, альбо распавесьці яскравую байку (як Стэн у «Разладжанай гаспадарцы», 1663), дзе няўменьне жыць ашчадна і ўтульна — ад асабістае дурасьці. У XVII ст. надзіва мэлянхалічныя на карцінах французскія сяляне. Нават запіваючы хлеб віном, яны засяроджаныя й дабрадзейныя — сваё п'юць-ядуць. А гішпанскія мужыкі — шляхотныя. Як па-каралеўску ваданос падае келіх вады зь інжырам дзецюку, што схіліў перад ім галаву! Гэта Вэляскес. Бадай ніводзін эўрапейскі жанрыст барока не абмінуў сялянскае тэмы. Неўтаймоўная плоцкасьць, шал аптымізму народнага сьвята... Чыё віно п'е Бахус? Чые плады нясе Вэнэра? Чый хлеб дзеліць Хрыстос? Сялянскія.

# ТРОХКУТНІК

*Працяг са старонкі 5.*

я, так дагэтуль і не разумею. Тым больш няясна, нашто было мне расказваць усё пра іх адносіны зь Юрам?.. Чорт яе ведае, толькі маё першае каханьне супала зь першым каханьнем Вольгі Пакроўскай да Юры Палякоўскага. Я гадзінамі гуляў з Вольгаю па менскіх парках і выслухоўваў доўгія споведзі пра тое, што творыцца ў яе на душы, і пра тое, што Юры творыць зь яе целам. А пакаціўся ком з гары вельмі проста. Вольга расказала мне пра паштоўку. Аказваецца, Палякоўскі даслаў ёй запрашэньне на свой дзень нараджэньня. Вельмі рамантычна, я б ніколі да такога не дапяў, даю слова. Вольга нават паказвала паштоўку. Звычайная — белыя гладыёлусы, і тэкст напісаны шарыкавай асадкай. Самае звычайнае запрашэньне. Толькі сытуацыя на дні нараджэньня атрымалася незвычайная. Акрамя імяніньніка й Вольгі на ім нікога не было. Можаш сабе ўявіць: пустая майстэрня, сьвечкі, каньяк, ціхі джаз і ён зь ёю. А што са мною было, калі яна расказала? Мне спачатку зрабілася млосна, а потым я ўвесь стаў, як драўляны. Мы якраз у сквэры, каля возера йшлі. Вольга пытаецца ў мяне пра нешта, а я ня чую, а калі яна перапытвае, я толькі хітаю галавою. І тут да яе дайшло. Зразумела мая Вольга Пакроўская, што робіць несусьветнае глупства. Ёй раптам таксама зрабілася не па сабе, і яна пайшла ў возера, як была ў чаравіках, джынсах і сінім плашчы, так і зайшла ў ваду. І мяне так моцна пацягнула ў возера, так захацелася зайсьці ў ваду, што й ня ведаю, якая моц запыніла мяне, не дала кінуцца за Вольгаю. У ваду я так і не зайшоў, стаяў на пяску й глядзеў, як прыгожа ляжаць на вадзе фалды яе сіняга плашча. Я думаў, што калі Пакроўская ўтопіцца, дык мне ня будзе балюча, я, клянуся Богам, нават хацеў, каб яна пайшла на глыбокае мейсца і ўтапілася. Толькі ясьней яснага было й тое, што ня ўтопіцца мая любая Вольга Пакроўская. І яна сама зразумела, што ў яе не стае сілы разьвітацца з жыцьцём, і яна абмыла твар халоднай кастрычніцкай валою. Як жа ёй цяжка было выйсьці на бераг?! Я і ўявіць не магу. Выйшла. І я моўчкі павёў яе дамоў. На гэтым бы ўсё й скончылася, бо, як ты сама разумееш, за адным сталом у вучэльні мы больш не сядзелі. Я перайшоў на апошні стол, у самы цёмны куток аўдыторыі, і з захапленьнем чытаў на занятках бэлетрызаваныя біяграфіі Гагенаў і Тулюз-Лятрэкаў, і мне да чорцікаў хацелася зьлётаць у Парыж і пахадзіць па вуліцах, на якіх сканалі ад наркотыкаў Утрыло разам з Мадыльяні. Мяне да глыбіні душы ўзрушыў той факт, што на пахаваньне Мадыльяні прыйшлі ледзь ня ўсе парыскія прастытуткі. І зусім ня ўзрадавала тое, што на пахаваньне Утрыло ніхто не прыйшоў. Як ты разумееш, маё першае каханьне скончылася на возеры. Толькі адносіны з Вольгаю мелі працяг. Яна сама падыйшла да мяне пасьля заняткаў і па-мужчынску прапанавала пагаварыць. Усё ж скульптура — мужчынскі занятак, і жанчыны-ваяцелькі зь цягам часу робяцца падобныя да дзядзькоў. І я ня змог адмовіць, я наогул нічога не сказаў. Яна папрасіла пачакаць яе пасьля заняткаў каля дзьвярэй вучэльні. І я пачакаў, і мы пайшлі праз арку на праспэкт, а потым па Друкарскай накіраваліся да сквэра, дагэтуль ня ведаю, як ён завецца. Мы йшлі, і Вольга казала, што любіць мяне, што я ёй вельмі патрэбны, што яна дзеля мяне можа зрабіць усё, што заўгодна, а яе адносіны зь Юрам Палякоўскім зусім іншыя. Яна казала, што ў Юры жонка мяшчанка, і ён вырашыў пакінуць жонку-мяшчанку, якая ня хоча нават дзіця нарадзіць. І таму яна, Вольга Пакроўская, пашкадавала Юру Палякоўскага. Проста ёй было шкада таленавітага чалавека, які з-за ідыёткі жонкі пачаў сьпівацца. Вольга гаварыла й гаварыла, а я маўчаў, як рыба, як вады ў рот набраўшы, як нямко. Маўчаў і ўсё. Спачатку Вольга рабіла перапынкі ў сваім маналёгу, чакала, што я скажу, а я глядзеў на мыскі сваіх чаравікаў і нічога не казаў. Я думаў, брыдка ўспамінаць, але я разважаў... Мне хацелася прапанаваць Вользе сыйсьці з вуліцы Друкарскай у бярозавы сквэр і на зжоўклай траве заняцца тым, чым яна займаецца ў майстэрні зь Юрам. Я падбіраў словы й ня мог падабраць. Такіх слоў я дагэтуль не навучыўся вымаўляць. Можа, іх і гаварыць ня трэба? Можа, дастаткова адчуваць? Перад вачыма ўзьнікалі й зьнікалі сцэны з распрананьнямі, апрананьнямі, з рознымі акрабатычнымі позамі, і таму даводзілася паглядаць на нагавіцы ніжэй, каб, крый Бог, ня выдаць сябе. Давялося адганяць эратычныя салодка-прыкрыя думкі, займацца толькі сабою. Ад Вользіных перажываньняў я быў далёка. Так, занятыя кожны сваімі пачуцьцямі, мы й дайшлі да яе двара, пасярод якога ляжала здаравенная лужына. Вольга пачала абыходзіць лужыну з аднаго боку, а я з другога. Я дайшоў да паловы бязьмежнай бруднай калюгі й раптам павярнуўся й пайшоў з двара. Вольга паклікала мяне, але я не азірнуўся й не спыніўся. Нашто? Я пакідаў назаўсёды сваё першае каханьне, калі гаварыць высокім стылем. Хацелася заплакаць. Мне ўяўлялася, як Вольга зайшла па калені ў ваду жоўтай лужыны, як яна праводзіць мяне позіркам, поўным сьлёз. Ну, такое тэлевізійнае мроіва: вочы поўныя сьлёз на ўвесь экран. Пяцьдзесят сантымэтраў па дыяганалі. А можа, вочы ў Вольгі былі сухія і не было ніякіх сьлёз. Такое цалкам верагодна, бо Вольга Пакроўская праз год зьмяніла прозьвішча на Палякоўская. І зробім выснову: пачуцьцё шкадаваньня значна мацнейшае за любоў, а тым больш за каханьне. Як і папярэджваў, нічога цікавага пра маё першае каханьне ты не пачула. Толькі каб гісторыя мела завершанасьць, трэба расказаць яшчэ пра дзьве мае сустрэчы з Вольгаю. Першая адбылася на Новы год. О, як я люблю Новы год! Сьвята, калі ніхто не кладзе на алтар ніякіх ахвяраў. Такое дзіцячае сьвята. І ўсе, нават самыя дарослыя, вераць у Дзеда Мароза. А калі хто й ня верыць, дык гэта ягоныя праблемы й комлексы. Мне што да іх? Я ж пачынаю сьвяткаваць Новы год з раніцы. Прачынаюся і йду ў госьці. Мне ўсё роўна, да каго хадзіць, магу на раніцу перад Новым годам і да цябе прыйсьці. Уяўляеш жарцік. А тады я пайшоў да Алеся Ласевіча. А ў Ласевіча быў кепскі настрой. У Алеся сумныя вочы й благі настрой — норма жыцьця. Ён жыў у адным пакоі са старэйшай сястрой, рыжай Ленкай. А калі табе сямнаццаць, ты сьпіш на раскладным крэсьле ў адным пакоі зь сястрою, якой васямнаццаць і якая навешвае на шафы замкі, дык і ў цябе нараніцу сапсуецца настрой канчаткова. Асабліва, калі да сястры пачне хадзіць у госьці маленькі жыдок Уладзя Габляр. І будзе ён прыцягвацца на золку. Я не жартую, бо калі я прыйшоў, жыдок ужо сядзеў на Сашыным крэсьле й расказваў показкі. У мяне добрая памяць на показкі, але тут я ня слухаў, а глядзеў на зубы Уладзі Габляра й думаў, што ў нутры такія самыя рэдкія зубы, толькі пацукі, наколькі ведаю, ня кураць, а Уладзя курыў цыгарэту за цыгарэтай і расказваў жыдоўскія показкі пра Абрама, Хаіма й Сару. Хаім з жонкаю Сараю ляжаць у ложку й ня могуць заснуць, бо Хаім увесь час варочаецца. «Хаім, чаго ты ня сьпіш?» — пытаецца ўстрывожаная Сара. «Я Абраму павінен рубель!» Сара грукнула ў сьцяну да суседа Абрама й кажа: «Абрам, гэта праўда што мой Хаім табе вінен рубель?» — «Праўда», — адгукнуўся з-за сьцяны Абрамаў голас. «Дык вось, Абрам, Хаім не аддасьць табе рубель, — гучна сказала Сара й шэптам дадала: — Сьпі, Хаім, хай цяпер Абрам ня сьпіць». Вось такія старыя показкі пра жыдоўскае каханьне расказваў Уладзя. І таму Алесь з радасьцю сыйшоў разам са мною з пракуранага пакойчыка, дзе на шафах засталіся блішчаць навясныя замкі. Я яшчэ не сказаў: Алесь Ласевіч іграў на гітары. З гітарай мы й зайшлі да Вольгі Пакроўскай, якая толькі-толькі зьбіралася стаць Палякоўскай. Яна, вядома, пералякалася ад такіх гасьцей, але нам было ўсё роўна, бо па дарозе мы завіталі ў гастраном і выпілі ў двары бутэльку віна з рыльца й бяз закусі. З чырвонымі навагоднімі насамі, алейнымі вочкамі й гітараю мы ўваліліся да Вольгі, а ў кватэры поўным ходам ішла падрыхтоўка да сьвята. Нам налілі гарэлкі. А мы за гэта сьпявалі пад гітару. Сядзелі ў пакоі, каля таго самага вакна, на якое я ня мог наглядзецца, і сьпявалі, і пілі гарэлку з крышталёвых чарачак. Вольга некуды сыйшла, і Алесь сказаў, што варта было б ціхенька ўцячы. Мы так і зрабілі, дапілі гарэлку й сыйшлі. Мяркую, на нас не пакрыўдзіліся. І за што крыўдаваць? Я разумею, калі Юра Палякоўскі пакрыўдзіўся й ледзь не прыбіў Валодзю Лазовіка, дык там было за што. Сам Лазовік гаварыў, што было. У Лазовіка з Палякоўскай (экс-Пакроўскай) быў флірт. Не люблю пранцускага слова, але нешта ў ім ёсьцека, нават гідкую мрою можна за ім прыхаваць. Ну, а раз быў флірт, дык знайшліся й сябры ў Юры Палякоўскага й расказалі пра зносіны паміж ягонай жонкаю й керамістам Лазовікам. А Валодзя, між іншым, хадзіў у першых сябрах Юры Палякоўскага. Такі пранцускі трохкутнік выбудаваўся, толькі ў параўнаньні з папярэднім трохкутнікам, дзе ўдзельнічаў я й адпаведна два куты былі войстрыя, а адзін тупы (тупы кут гэта я), у новым трохкутніку ўсе вуглы былі роўныя. Юра доўга трываў, але ня вытрываў і аднаго разу выбухнуў. Яны пілі ў майстэрні ўтраіх: Вольга, Палякоўскі й сябра сям'і Валодзя. Юра перабраў і пачаў дамагацца ў Вольгі прызнаньняў у здрадзе. Вольга як толькі магла адмаўлялася, але дамаганьні

Да сярэдзіны XIX ст. Каро, Курбэ, Дам'е «закруглілі» гэтую тэму. У 1863 г. ў Парыжы адбыўся «Салён адрынутых», які адчыніў эўрапейскаму мастацтву дзьверы ў новыя далягляды. Вычарпаўшы магчымасьці адлюстраваньня ды імітацыі натуры, эўрапейцы пачалі экспэрымэнтаваць.

Дыдактычнасьць расейскае культуры наканавала іншы шлях мастацтву. Ня сам аб'ект, яго форма, колер, плястычны абрыс, а этычная ўстаноўка — вось грунт, на якім паўстаў расейскі жывапіс. Ухіл у крытыцызм стаў для яго фатальным. Жанравыя карціны мусілі замяніць неісьменнай нацыі літаратуру, а сталі трыбунай радыкальнае прапаганды.

Дзеля гэтай мэты ў 1863 г. 14 студэнтаў пакінулі сьцены Пецярбурскай Акадэміі мастацтваў. Пісаць карціны ў духу крытычнага рэалізму не забаранялася. Якабі два гады перад тым нават атрымаў вялікі залаты мэдаль за «Прывал арыштантаў» і быў адпраўлены за мяжу вучыцца далей. Але «14» вырашылі сыйсьці. Як народнікі — «у людзі». Стварылі Арцель «паводле Чарнышэўскага» — адна майстэрня, супольныя грошы, агульны побыт. Дзіўна, але Арцель праіснавала добрае дзесяцігодзьдзе. Утворанае пазьней, у 1870 г. Таварыства перасоўных выставаў, наогул ня мае аналягаў у Эўропе паводле часу існаваньня — аж да 1923 г. Паводле прынцыпаў арганізацыі гэтае мастацкае аб'яднаньне нагадвае хутчэй партыю. Галоўны ідэоляг перасоўніцтва Крамской пісаў: «Толькі пачуцьцё грамадзкасьці дае сілу мастаку». Гэтае пачуцьцё разумелася як тэндэнцыйнае асьвятленьне нэгатыўных зьяваў у рэчаіснасьці. Квінтэсэнцыя эстэтычных уяўленьняў перасоўнікаў — словы Рэпіна: «Для мяне вышэй за ўсё праўда, паглядзіце ў натоўп, дзе заўгодна, — ці шмат вы сустрэнеце прыгожых твараў?..» У гэтым неўладкаваным сьвеце хараства папросту ня можа быць. Нябогі, сьляпыя, жабракі, тапельцы — вось «праўда жыцьця» для перасоўніка-жанрыста.

Пры гэтым нельга сказаць, што расейскія мастакі былі ізаляваныя ад сьвету, як у савецкі час. Яны жылі-працавалі ў Францыі, Італіі, Нямеччыне. Але што бачыла там іхняе вока — вока «передвижника»? Пяроў, седзячы ў 1860-я гады ў Парыжы напісаў «Сьляпога музыку», «Саваяра», «Пахаваньне ў бедным квартале». Перакос у сьвядомасьці. Ніякіх дачыненьняў з францускім мастацтвам і яго экспэрымэнтамі...

Адзін з таямнічых фэномэнаў узаемадачыненьня расейскіх мастакоў з эўрапейскай традыцыяй — сталы зварот да тэмы Варфаламееўскай начы. Зноў і зноў зьвярталіся да гэтага сюжэту Брулоў, Веніг, Гун, Рэпін. Магчыма, гэта была пэўная процівага цыклю страсьцей па Іаану (Жахліваму) — з уласнай гісторыі, цыклю, які актыўна й разнастайна распрацоўвалі расейскія жывапісцы ў 1860 гады? Забойства царом свайго сына, цар ля труны сына, сцэна зьдзеку Жахлівага над блазнам Гвазьдзёвым, напад цара на пасла Курбскага і г.д. — улюбёныя тэмы жанравага жывапісу зь гісторыі Расеі. Ці няма тут нейкае мэтафізычнае сувязі з паляваньнем на цара — сацыялістаў?

Жывапіс перасоўнікаў высока ацанілі бальшавікі. «Уладзімер Ільіч любіў карціны...» — пісала Крупская. Асабліва Ільіч запомніў «Зьняволенага» Ярашэнкі: «Цудоўна! Як будзем гаспадарыць, каб не забыць?» — пытаўся ён. Кола замкнулася.

У 1863 г. на Беларусі займацца творчасьцю не было як. Дзясяткі студэнтаў і мастакоў зь Пецярбургу, Масквы, Вільні ўдзельнічалі ў паўстаньні. У тым годзе ім наканавана было стаць героямі, ня геніямі. І быць выкрасьленымі з гісторыі эўрапейскага мастацтва аж да XX ст. Пасьля забароны беларусам (каталікам і пратэстантам) паступаць у расейскія навучальныя ўстановы ўдзел іх у мастацтве Расеі стаў мінімальны. Так, у 1870-90 гадох сярод студэнтаў мастацкіх школ было больш баўгараў і сэрбаў, чым беларусаў. Сярод перасоўнікаў былі толькі два пэйзажысты, што паходзілі зь Беларусі, — нейкі Ясноўскі і Бялыніцкі-Біруля. Шляхі ў мастацтве — расейскія й нашы — разыходзіліся. У XIX ст. Беларусь унікла ўплыву перасоўнікаў, а XX стагодзьдзе паставіла іншыя мэты ў мастацтве.

Сёньняшняя мастацкая кан'юнктура на Беларусі імкнецца нібы запоўніць той «прабел». Канец сацрэалізму адкрыў ёй неабмежаваныя магчымасьці для крытыцызму безь берагоў. Пошукі нацыянальнага сталі заплыткія, фармальныя праблемы — запрэсныя, аптымізм — падазроны. Нармальнасьць падавалася як непатрыятычнасьць, а спэкуляцыя на тэмах — як грамадзянская пазыцыя. Сачыць за апакаліптычнымі знакамі — значыць, страціць надзею. Адкідаючы прынцып сьцьверджаньня, мы становімся ў апазыцыю да сусьветнае культуры, да культуры стварэньня.

Некалі мастакі Ірэ і Таэсіка Марукі, цяжка хворыя на прамянёвую хваробу, скончылі цыкль пано, прысьвечаных Хірасіме, лірычнай кампазыцыяй. Гэтае апошняе пано ставіць на свае месцы ўвесь папярэдні натуралістычна-экспрэсіўны аповед.

Кола разамкнулася.

мужа з кожнай чаркай рабіліся ня толькі больш настойлівыя, але й больш аргумантаваныя. А калі Валодзя Лазовік паспрабаваў быў бараніць сваю каханку ад разьюшанага законнага мужа, дык пачуў: «Сядзі й маўчы, а вякнеш — заб'ю!» Хоць Лазовік і насіў бараду, як Юра Паляковскі, але важыў ён удвая менш і ніжэйшы быў на паўгалавы. Так што аспрэчваць пагрозу не было ніякае выгоды. Распачынаць бойку таксама ня мела сэнсу. І Валодзя разыграў сцэну паміраньня ад перапою. Ён упаў тварам на стол і пачаў курчыцца ў сутаргах. Ён качаўся па падлозе, скавытаў, хрыпеў, пускаў сьліну й закатваў вочы так, што на твары заставаліся адно вырачаныя бялкі. Ён драў пазногцямі брудныя дошкі падлогі, біў сябе ў жывот, пускаў фантаны ванітаў і ў рэшце рэшт так перапалохаў Вольгу зь Юрам, што Паляковскі пабег выклікаць лекара, а Вольга натуральна рыдала ў кутку. Сцэна была такая яркая, што Вольга адмовілася верыць у яе несапраўднасьць, і Валодзя Лазовік пакінуў сцэну, ці, дакладней, майстэрню свайго, цяпер назаўсёды былога, сябра. Так скончыўся флірт, а мне засталося расказаць пра апошнюю сустрэчу з Вольгай Пакроўскай-Паляковскай. Пасьля інцыдэнту ў майстэрні Вольга доўга, мусіць, з паўгода не жыла з Паляковскім, але час, як любяць казаць банілісты, загаіў раны. Вольга вярнулася да Юры, пражыла зь ім год і нарадзіла дачку. Мае дачыненьні з жанчынамі набылі зусім іншы кшталт, я ўжо не саромеўся папрасіць або прымусіць каханку стаць у тую пазыцыю, якая б задавальняла ня толькі яе, але й мяне. Пра Вольгу я й думаць ня думаў, і тут — сустрэча. Было гадзінаў адзінаццаць раніцы, той час, калі на вуліцах Менску менш за ўсё народу. Я наважыўся перайсьці праз падземны пераход на другі бок праспэкту, а зь пераходу якраз і выходзіла Вольга. Мы змушана павіталіся. Вольга пачала расказваць пра дачку, пра тое, як любіць дачку Юра. Мне страшэнна хацелася як хутчэй разьвітацца, бо нарэшце я ўбачыў, якая ж яна непрыгожая Вольга Пакроўская: нізенькая, шырокая ў крыжы, з тоўстымі кароткімі лыткамі, з круглым, нібы надзьмутым тварам, на якім ружавее дробны задраны ўгару нос, а яе касаватыя вочкі зацягнутыя нейкай жаўтаватай мутнасьцю. О Божа, і гэтую жанчыну я мог любіць! Адкрыцьцё ўласнага асьляпленьня агаломшыла, зьбянтэжыла, прыбіла. А Вольга спакойна расказвала пра тое, што ў яе быў масьціт, што хірург жахліва парэзаў ёй грудзі і што нарадзіць яшчэ адно дзіця яна ўжо ніколі ня зможа. Маё ўяўленьне намалявала Вользіны парэзаныя грудзі з жахлівымі кілоіднымі шнарамі. Нейкая нябачная сіла адштурхнула мяне ад Вольгі, я пасьпяшаўся разьвітацца й сыйсьці.

Я ж табе й казаў, нічога цікавага ў маім першым каханьні так і не адбылося. Ніхто не ўтапіўся й не парэзаў сабе вены.

Адам Глёбус

*Сочы—Менск 1992.*

# ПАСАД

## Гутарка ў рэдакцыі віленскага часопіса «Krantai». Размаўляюць рэдактар «Krantai» паэт і эсэіст Вайдотас Даўніс і супрацоўнікі «НН» Сяргей Дубавец і Сяргей Шупа.

**ДУБАВЕЦ** Гаворка пойдзе пра нашыя культуры — літоўскую й беларускую, пра нашую адчужанасьць і пра тое, што нас яднае, — пра Вільню... Іншым часам мне здаецца, што нам фатальна ня дадзена зразумець адзін аднога, адчуць гэтую аб'ектыўную гістарычную, геаграфічную, этнічную й нават чалавечую блізкасьць. Магчыма, для гэтага нам трэба параўнаць, супаставіць, «зьвесьці» нашыя адносіны да Вільні...

**ДАЎНІС** Беларускай культуры не відаць у літоўскай культурнай панараме. Гэта дрэнна, але недзе тоіцца прычына гэтага. Вось, прыкладам, вашая газэта... У літаратурным літоўскім абыходку яе няма, мала хто пра яе ведае. Няма кантакту. Я думаю — адкуль гэта? Мабыць адтуль, што й вы пакуль шукаеце саміх сябе, і мы шукаем саміх сябе. І не сасьпела яшчэ тое, пра што можна было б сказаць, што наша сумоўе стала новай культурнай сытуацыяй. Трэба пачакаць. Але трэба адчуваць, чаго вы шукаеце й чаго мы шукаем. Трэба чуць адзін аднога. Вы любіце Вільню, і мы таксама любім яе. А калі ў вас ёсьць любоў і ў нас любоў — значыць у нас можа быць вельмі плённае сумоўе паміж дзьвюма культурамі... Толькі ж многія літоўцы ня ведаюць, зусім не цікавяцца, ня могуць адказаць, што для іх Вільня. Яны пра Коўна могуць гаварыць зь любоўю — зь нейкай прагматычнай, эгаістычнай любоўю, — а пра Вільню яны гавораць як пра музэйную рэліквію. Яны не адчуваюць ні трагедыі гэтага краю, ні мінуўшчыны, ні будучыні.

**ДУБАВЕЦ** Гэта прынамсі першая выразная аналёгія. Беларусы ў большасьці таксама ня ведаюць, не цікавяцца, не адчуваюць... Праўда, я не магу сказаць, што яны ня любяць Вільню на карысьць Менска. У тваім тэксьце з газэты *Lietuvos rytas* мяне ўразіла думка пра тое, што беларусы ня маюць пасаду. Рэч у тым, што ў нашай мове і слова гэтае ёсьць, і, я думаю, Янка Купала ў пачатку стагодзьдзя яшчэ разумеў сэнс гэтага слова. Але я сэнс гэтага слова ўжо не разумею. Я ня ведаю, што такое пасад. І ты ў сваім тэксьце не растлумачыў, што гэта такое, а толькі ўзбудзіў маё няведаньне. Што такое пасад? Ты пішаш, што беларусы ня маюць пасаду. Яны ня маюць і ўяўленьня пра тое, што гэта такое. Некалі мелі, напэўна...

**ДАЎНІС** Гэта праблема пачуцьця мэтафізычнай аседласьці, якое было праз вякі. Нашы дзяржавы... Тут мы былі як на скрыжаваньні ўсіх войнаў, ідэй, культур. І мы згубілі гэтае пачуцьцё. Пачуцьцё пасаду.

**ДУБАВЕЦ** З чым бы ты яго параўнаў. Ці як гэта выглядае ў нейкага іншага народу? Нам, бывае, больш зразумелыя пачуцьці якога-небудзь ангельца, чым свае...

**ДАЎНІС** У ангельца фізычныя структуры вельмі цьвёрдыя. Традыцыі — яны ў крыві ў яго. Таму ён гэтага не адчувае, яно ў крыві — аседласьць, кансэрватызм. А ў нас гэта мэтафізыка суцэльная. Мы ўвесь час яшчэ з часоў Міцкевіча кажам пра мінуласьць, што нашыя карані засталіся недзе там, ззаду. Мы шукаем іх там. А корань — гэта й ёсьць аседласьць. Корань, які не дазваляе пакідаць радзіму, эміграваць, быць трансэмігрантам, чалавекам без радзімы. Таму мы так шукаем сваіх каранёў. З другога боку, гэта пачуцьцё нават рэлігійнае. Бог мне даў гэтую зямлю, каб жыць тут і выканаць сваю жыцьцёвую місію тут, а ня недзе ў іншым мейсцы. Ён даў мне ТУТ маці, сям'ю, дзяцей, радзіму. І я мушу выканаць сваю місію тут, а не ў Амэрыцы, Расеі ці на БАМе... Гэта праблема мяне як верніка. А вера тут была страчана, як і радзіма тут была страчана за ўсе гэтыя савецкія дзесяцігодзьдзі.

Калі я кажу пра Вільню як пасад, я думаю пра свае карані тут. Мой дзед па-польску гаварыў. У XIX ст. мяне пісалі Даўневіч, бо там быў ксёндз ці паляк, ці рускі. Але я тут свае карані адчуваю як санскрыт, як літоўскую мову, якая тут была вельмі даўно. Таму я тут ня прышлы, я тут аўтахтон, аседлы. І калі вы, беларусы, шукаеце тут тых самых каранёў, дык мне цікава, дзе мы сустракаемся, у якім стагодзьдзі? Бо цяпер на Вільню ўсе глядзяць як на сваю, але з розных бакоў: беларусы — са свайго, а літоўцы са свайго. Але галоўнае — дзе мы сустракаемся? Чыста мэтафізычна мы сустракаемся там, дзе ёсьць вера, любоў...

**ШУПА** Прасачыць, калі балтыйскія плямёны беларусізаваліся, калянізаваліся гэтай хваляй з Усходу... Які час тады браць за крытэрый вызначэньня нейкага падзелу? 12 ст. — гэта балцкія плямёны, 17 ст. — беларусы-каталікі і ў 19 ст. — яны ўжо палякі.

**ДУБАВЕЦ** Прасьцей паглядзець, дзе мы разыходзімся.

**ДАЎНІС** Тут ёсьць праблема палітычная, праблема гістарычная, але гэта й праблема чыста паэтычная. Я пішу па-літоўску верш, думаю пра онталёгію мовы, этымалёгію, мэтафізыку мовы — я думаю, мушу думаць, дзе я ўзьнік, адкуль я. Я знаходжу літоўскае слова ў тэксьце пісьменьніка-ксяндза 18 ст., 17 ст. — гэта для мяне адкрыцьцё. І беларускае слова чыста паэтычна мяне натхняе — артыкуляцыя, фанэтыка — гэта паэтычныя праблемы. І менавіта таму я як паэт зьяўляюся артадаксальным літоўцам. Я — той чалавек, які цяпер прамаўляе літоўскае слова — ну, напрыклад, saulė — і калі я адчуваю, што я гэтае санскрыцкае слова вынес праз тысячагодзьдзі — я ня тое, што Дэміург, але ўсё ж я перанес праз тысячагодзьдзі гэтае слова — гэта для мяне проста адкрыцьцё, я ўвесь раблюся тэолягам, філёзафам... не палітыкам, вядома.

**ДУБАВЕЦ** Літоўская культура на Беларусі й беларуская ў Літве відочна не прысутнічаюць. Хоць Беларусь і Літва ўзаемаперaліваліся на працягу стагодзьдзяў, а цяпер... Для вельмі многіх беларусаў што Літва, што Мазамбік...

**ДАЎНІС** Для літоўцаў таксама. Я, як літовец, магу шчыра выказаць сваё абурэньне літоўцамі. Бо сапраўдны літовец, калі ён паўнацэнны, жывы чалавек, ён мусіць радавацца, пачуўшы, як якаясь бабуля на Віленшчыне гаворыць па-беларуску, на тутэйшай мове. Ён мусіць чуць, як у мове гэтай бабулі цячэ жыцьцё. Ён мусіць захоўваць гэтае жыцьцё, а не зьмярцьвяць яго. А ў нас на ўсю гэтую фанэтычную, лінгвістычную культуру глядзяць збоку, як на ракавую пухліну, іншароднае цела, якое трэба выкінуць зь сябе. Гэта праблема літоўцаў — як яны могуць выкінуць тое, што жыве ў іхняй радзіме? Значыць, гэты літовец адчувае нейкую ўнутраную абмежаванасьць. У гэтым сэньсе я бачу шмат прыкметаў, што літоўская нацыя хворая. Яна ня можа выносіць іншага. Вельмі многія літоўцы хворыя на ксэнафобію. Гэта я кажу як літовец. Пра беларусаў я ня ведаю, як яны адчуваюць у сабе, нейкая праблема тоіцца і ў іх, нейкая патэнцы-

---

Вайдотас ДАЎНІС

# МЕСЦА ОНТАЛЯГІЧНАЙ ПРАВЕРКІ

*З тэксту, надрукаванага ў пачатку 1993 г. у газэце «Lietuvos rytas»*

Гара Гедыміна для літоўскае нацыі ёсьць сымбалем сталасьці, пераемнасьці традыцый. Гэта сымбаль, які нагадвае народу пра тое, што ў яго ёсьць пасад. У яго ёсьць і герб з коньнікам, віцязем. Віцязь увасабляе прастору й свабоду. Пасад увасабляе ў сабе час (пераемнасьць у часе) і трываласьць.

У народа й дзяржавы, якая беражэ гэтыя сымбалі, ёсьць асновы. У беларусаў ёсьць Пагоня, але ў іх няма Пасаду. Магчыма, таму яны так сумуюць па Вільні й зь цягам часу будуць усё больш ставіцца да яе як да сваёй.

Цяжка сказаць, што большасьць літоўцаў успрымаюць Пасад як сваю ўласнасьць. Віціса — магчыма. Асабліва горача ставіцца да Віціса Коўна. Але — Пасад! Пасад для сьветаадчуваньня літоўца — гэта пераважна тое, чаго яшчэ не дабіліся, чым не натхніліся, чаго не ўвабралі ў кроў. Калі спытаць жыхара Коўна, чаму яму не падабаецца Вільня, ён скажа: таму што там занадта шмат славянаў. Ён ня скажа, што Вільня ўвогуле ня можа падабацца ці не падабацца, што Вільня папросту экзыстэнцыяльнае выпрабаваньне для літоўца, месца онталягічнай праверкі. Ня скажа таму, што тады прыйдзецца не славянаў абвінавачваць, а спытаць з самога сябе. Гэта, зразумела, недазвальняльная раскоша.

Таму многія літоўцы ўступаюць у Вільню, патрасаючы Віцісам. Але гэтым справа часьцей за ўсё й сканчаецца. Замінка ўзьнікае ўжо на подступах да гары Гедыміна, г.зн. да Пасаду, калі настае неабходнасьць разабрацца ў пытаньнях трываласьці формаў, уменьня ацэньваць рэальную сытуацыю, адрозьніваць падставовыя ідэі й зьменлівыя зьявы.

Літоўцы ніяк ня могуць даць сабе рады з выпрабаваньнем, што ўскладзенае на іх уласнай традыцыяй. Гэтае выпрабаваньне таемнае, але разам з тым і яснае. Узыходзячы на гару Гедыміна, трэба паварочваць супраць гадзіньнікавай стрэлкі, справа налева. Гэта ненатуральна. Даводзіцца пераадольваць адрэзак малаплённы: узыйшоўшы наверх, знаходзім там не Пасад, а ўсяго толькі музэй. Затое спускаемся ўжо па гадзіньнікавай стрэлцы. Спуск наніз, як падзеньне, натуральны.

І ўсё ж трэба прыняць гэтае выпрабаваньне. Бо ўзыйшоўшы на гару па дадзеным шляху, можна прыйсьці да высновы, што вынікам дадзенага шляху і ёсьць спасьціжэньне сэнсу. Бо сэнс заключаецца ў наступным: раней мы думалі, што для дасягненьня дабра патрэбная штучная зьмена рэчаіснасьці, бяздоказныя ўдары, падазронасьць, барацьба з хімэрамі; цяпер жа мы разумеем, што падобным чынам дабра не дамагчыся, яно не патрабуе настолькі штучных высілкаў.

«Гэта йдзе ўразрэз з будзённым нашым мысьленьнем, — кажа сьвятар Вітаўтас Багданавічюс, камэнтуючы працу Поля Клёдэля. — Мы думаем, што зло — гэта сапраўднасьць нашага жыцьця, а дабрата й дабро толькі дадатак да гэтай сапраўднасьці, якія зь цяжкасьцю ёй навязваюцца. А значыць, злу ўласьцівая лёгкасьць, а дабро патрабуе ахвярнасьці, ненатуральных высілкаў. Між тым Клёдэль кажа зусім адваротнае: "Толькі зло, праўду кажучы, патрабуе высілкаў, бо яно скіраванае супраць сапраўднасьці"».

*Здымак: Вітаўтас Балчыціс*

**Вайдотас Даўніс**

# ТРЫ СВОМАСЬЦІ ВІЛЬНІ

*З тэксту, надрукаванага ў «Regnum» II*

...Мая ідэя абапіраецца на меркаваньне, што ў нашу эпоху значна важней і каштоўней ня столькі накінуць, натхнуць іншаму сваю любоў або сьветагляд, колькі агаліць сваю ўласную сытуацыю, стан, сардэчную інтэнцыю, якая сваёй аголенасьцю сьведчыць аб існаваньні любові й сьветагляду. Я маю на думцы стан аголенага сэрца, у якім трымціць і высьлявае кволае імкненьне да жыцьця, што лучыць повязьзю міласэрнасьці голага грэшніка й голага сьвятога. Гэтае імкненьне да жыцьця — гнуткае, як трысьнёг (паводле Паскаля), яно здольнае сваёй міласэрнасьцю абняць сусьвет і таму — велічнае.

Гэты стан я цяпер акцэнтую як стан творчасьці, які дазваляе чалавеку адрозьніваць рэчы, імёны, зьявы, абняць лад любові, ordo amoris (паводле Макса Шэлера), а не паддацца чарам сусьвету або сьветаглядных аспэктаў, пэрыфэрыйных велічыняў, якія нашы пачуцьці й адчуваньні часта схільныя ператвараць у цэнтральныя, усеабдымныя, гіпэртрафаваныя. Гэты адкрыты, аголены стан, сытуацыя творчасьці, вызначае плённасьць кожнае гістарычнае эпохі. І калі мы, ідучы з аднае несапраўднае эпохі, якая хоча сапраўднага творчага (крызыснага) чалавека замяніць чалавекам міталягічнага космасу, ня хочам расьці у іншай міталёгіі, якая імкнецца ахінуць сэрца шатамі чараў, — мы мусім заўсёды сьцьвярджаць, што без чалавека творчасьці няма чалавека веры.

Вось якою ёсьць для мяне Вільня: я заўсёды знаходжу яе як самародак перабываньня, які запаляе маю душу, калі яна залішне супакойваецца, або даруе спакой, калі ёй не стае таго, што мы называем ладам любові. Вільня — гэта знак, які спраўджае чысьціню, адкрытасьць, аголенасьць маёй душы; Вільня — гэта выпрабаваньне, якое кажа мне, варты я імкненьня да жыцьця, або не. Ня толькі маё пакаленьне трыццацігадовых, але й іншыя, маладзейшыя й старэйшыя, прыйшлі ў Вільню ўжо як у існы факт, як у прастору, у якой хаваецца код стагодзьдзяў існаваньня; бальшыня з нас — прыхадні або тыя, хто толькі цяпер адкрывае для сябе Вільню (думаю, што й паасобныя нацыянальнасьці — літоўцы, жыды, палякі, расейцы — толькі цяпер адкрываюць яе як сусьвет, у якім ёсьць іхныя карані, забытыя, пакінутыя або зьнішчаныя). І таму Вільня нам — як выпрабаваньне. Бо пытаньне такое: ці гэтае бачаньне Вільні як экзыстэнцыяльнага самародка пераманяе маю душу, пераносіць яе ў іншае вымярэньне, або — не? Гэтае пераманеньне з аголенага стану ў стан плённага адкрыцьця (бачаньня) ёсьць ня што іншае, як творчы акт, г.зн. рух, які творыць. Вільня ў гэтае імгненьне дзеіць як знак, як творчы прынцып, які мяне самога робіць творцам, г.зн. зьмяняльнікам існаваньня. Таму я як творчы чалавек магу хоць бы прыблізна сказаць, якія ж свомасьці гэтага творчага прынцыпу, што вырастаюць з гэтага самародка быцьця, імя якому Вільня, што натхняюць мае ўласныя словы, колеры або гукі, маё творчае выяўленьне.

Найперш, гэта порух ініцыяцыі, які я называю перадтактам. Гэта натхняльны склон, які рэальна дзеіць яшчэ перад тым, як вымавіцца або напішацца першае слова, які арганізуе рытмічную структуру. Засяроджваючы ўвагу на перадтакце, я хацеў бы запярэчыць панаючаму ў нашых арс поэтыках дый у самой паэзіі натуралістычнаму разуменьню слова, паэтычнага матэрыялу. Значная частка нашае паэзіі заблыталася ў матэрыяле, яшчэ большая яе частка — асабліва маіх аднагодкаў — сапраўдныя дачыненьні з моваю здольная тлумачыць, сьцьвярджаць толькі як дачыненьні паранаідальныя, у якіх мэтафізычны слых творцы застаецца непаразуменьнем, іншародным целам. Тым часам якраз гэты слых, які ініцыюе паэтычную мову, падаецца мне найістотнейшым паэтычным слыхам. Услухоўваючыся ў перадтакт, мы загадзя паўтараем увесь мэтафізычны рух, які праз імгненьне разгорнецца ў фізычным, вымаўленым слове, радку, у іх дачыненьнях. Перадтакт — скажам моваю рэлігіі — гэта прычашчальны порух; калі я ня чую гэтага пораху, як я магу пачуць рэальнасьць самаго прычасьця? Вось гэты ініцыяцыйны порух ёсьць для мяне неадлучнаю часткаю Вільні, гораду, які йснуе ў рэальнасьці. Вільня — не імпарскі горад. Разам з тым гэта й не гандлёвы ганзэйскі горад. Гэта ня той горад, што абрынаецца на цябе ўсёю сваёю матэрыяльнасьцю, відавочнасьцю й велічнасьцю формаў. Трэба прайсьці празь вельмі чуйны стан перадтакту, каб гэты горад загаварыў, каб ён пачаў раскрывацца, хвалявацца, рухацца. Перапляценьне эпохаў, этнасаў, стыляў пазначае тут асаблівую важнасьць гэтага мэтафізычнага ўступу. Безь перадтактавага пораху нам было б цяжка зразумець неаднастайнасьць і паходжаньне віленскае архітэктуры. Вось франтон вялікага Францішканскага касьцёла, у ім прыхаваныя гатычныя лініі, — калі мы не пачуем іх уступам, перадтактам да ўсяе пазьнейшае барокавае архітэктуры, мы не зразумеем, што гэта за архітэктура.

Другую свомасьць паэтыкі, якую я знаходжу ў тканіне Вільні, я азначаю як неабходнасьць інтанаваньня. Інтанаваньне паходзіць з таго самага перадтакту, у якім бярэ ўдзел мэтафізычны слых слова. Мы ведаем, што значыць музычнае інтанаваньне — гэта дакладнае імкненьне да дакладнае вышыні гуку, суправаджанае няспынным слыхавым напружаньнем, уласцівым (асбліва) гэтак званаму абсалютнаму музычнаму слыху. Гэтае імкненьне да чыстага гуку — своеасаблівая інтэнцыя дасканаласьці, але важней за ўсё тое, што гэтая інтэнцыя рухаецца й разьвіваецца, яна жывая ня толькі ў асобнасьці гуку або слова, але ў сынтаксе, дыялёгу, спалучэньні гуку з гукам, слова з словам, словаў з словам і з словамі. У нашай паэзіі вельмі шмат моўнага распаду, словаў, што ня могуць вытрымаць доўгага напружаньня фразы, якое патрабуе сьведамага й ахвярнага інтанаваньня. Гэтая няздольнасьць інтанаваць у чыстых фразах пасвойму кампэнсуецца парадаксальнымі моўнымі правалами й брыдотамі, псэўдашматзначнымі замаўчаньнямі. Няма нічога цяжэйшага для мастака нашых часоў, як сумленна прасьпяваць тэму грыгарыянскага харалу або канон, дзе інтанаваньне аголенае, як згаданае раней сэрца. Але гэтаксама цяжка нашаму чалавеку адчуць тое чыстае хваляваньне інтанацыі, тое імкненьне розных формаў, эпохаў, лініяў зладзіцца між сабою ў інтанаваньні найдакладнейшага тону, які, магчыма, мы маглі б вызначыць як дух, сутнасьць Вільні, як камэртон чары Сьвятога Грааля, тае чары жыцьця, якая, як мне верыцца, глыбока схаваная ў самой Вільні... Вільня вучыць мяне інтанаваць паэтычнае слова. Думаю, што вучыць не адзін толькі горад, але добра меціць Адзінага настаўніка паэзіі.

Нарэшце, яшчэ адна свомасьць, паняцьце якой у лексыконе паэтыкі выглядае вельмі нязвыкла, аднак безь якой мне цяжка было б вызначыць, як я разумею мастацтва паэзіі. Гэтае паняцьце — шляхотнасьць. Гэта не маральнае паняцьце ў звычайнам сэньсе, — шляхотнасьць я ўспрымаю як прыроджаную свомасьць сапраўднага паэтычнага слова, творчага памкненьня, якое шукае плённасьці, як якасную рысу. Шляхотнасьць — гэта давер да паходжаньня, давер да падставы быцьця (свайго быцьця). Шляхотнасьць — гэта глыбокае пачуцьцё пераемнасьці, якое я прапаную называць пачуцьцём традыцыі. Гэтае пачуцьцё не прызнае істэрыі, выкліку, жаданьня заглушыць наваколье. Шляхотнасьць зьвязаная з лагодаю, бо лагодным можа быць найперш той, чыё сэрца мае трывалую аснову, духовае паходжаньне й давер да быцьця. Шляхотнасьць абапіраецца на слых, чуйны да перадтакту й інтанаваньня, на здольнасьць чуць. Няма патрэбы тлумачыць шырэй, што шляхотнасьць паэзіі выяўляецца як яе непрэтэнцыёзнасьць, давер да рытму, які ёсьць аднадчасна й вялікім спадчынным рытмам, што пульсуе ў крыві чалавека. Гэтаксама, відаць, неабавязкова тлумачыць шырэй, што гэты дух у Вільні прыроджаны, выпеставаны людзьмі й прыродай. У Вільні лунае той дух даверу да традыцыйнасьці (а не імпэрскае пыхі), які й зрабіў гэты кволы, зграбны й далікатны горад фундамэнтальным і вечным...

**Пераклаў U2.**

яльная благая якасьць, што на такую нацыю, як літоўцы, яны могуць глядзець не як ксэнафобы, але як на музэйны экспанат, рэліквію, якая невядома адкуль тут. Літоўцы на беларусаў глядзяць як на палякаў, на рускіх, як на вялікую нацыю, хоць яна й ня надта вялікая. І ўсе падтэксты вялікай нацыі мы пераносім на вас. Як на славянскую нацыю.

**ШУПА** У нас часам самое слова «славянскі» адразу выклікае асацыяцыі правакацыйныя. Бо нашы ворагі заўсёды апэруюць паняцьцем «славянскі», якое для іх абсалютна тоеснае слову «расейскі». І ніякіх больш славянаў яны ў гэтае паняцьце не ўключаюць, а нас горнуць да сябе.

**ДАЎНІС** У звычайнай літоўскай сьвядомасьці гэтая міталёгія ёсьць, вы не вылучаецеся як народная асоба. Але гэта праблема літоўцаў. Таму што ўзьнікае пытаньне, ці зьяўляецца літоўскі народ асобай, нацыянальнай асобай, як Карсавін сказаў бы, калі ён ня можа зразумець іншы народ як асобу. Гэта й ёсьць наш мэтафізычны кацёл — гэтага ўсяго рэгіёну. Калі ўсе толькі становяцца, і формы яшчэ не знаходзяць. А асоба бяз формы не асоба. Таму мы ператвараемся ці ў нацыяналістаў ці ў касмапалітаў.

**ДУБАВЕЦ** На тваю думку, якія захады могуць быць прадуктыўныя, каб пераадолець гэтую адчужанасьць?

**ДАЎНІС** Я адкажу як паэт, таму што як разумны паэт я павінен думаць, каб мой верш быў выніковы. Трэба нэўтралізаваць усе гэтыя палітычныя афарбоўкі нашага жыцьця, якія нам замінаюць адзін з адным размаўляць. Яны — у штодзённай сьвядомасьці. Як нэўтралізаваць? Трэба паэзію чытаць. Мне трэба проста перайсьці гэты беларускі й літоўскі край пешшу, болей пісаць і думаць пра ўсе гэтыя праблемы. Я павінен быць вольным чалавекам перад усёй гэтай праблематыкай. Я не павінен замыкацца ў сабе.

Даволі многа цяпер кажуць, што літоўцы стаяць тварам у твар з Эўропай, са Скандынавіяй. Але з нас не атрымліваецца эўрапейцаў у такім стаяньні толькі таму, што за сьпінаю ў нас страх, несвабода, няведаньне, як вырашаць гэтыя праблемы мінуўшчыны, праблему сваіх беларускіх каранёў. Там наша гісторыя. Як літовец, я думаю, што нашы праблемы там, за сьпінаю. Як вы думаеце, што ваша гісторыя тут, у Вільні, так наша — за сьпінаю. Вялікае Княства Літоўскае, Наваградак, нават Менск... Што гэта — Менск — для мяне, як для паэта? Гэта знак лёгацэнтрычнай паэтычнай культуры, таму што *мен* — гэта корань той самы, што і ў слове *mintis* — *мен/мін* — і корань Мендога, корань нават Гедыміна, толькі ўсё ў адваротнай форме. Геды-мін, *гед* і *дог* — гэта тое самае — Мен-дог (тут ідзе чыста мая інтэрпрэтацыя), інвэрсія атрымалася. Мендог і Гедымін — гэта адно й тое ж наша не асабовае, а агульнае імя. І мы страцілі з забойствам Мендога ня тое што караля першага хрысьціянага, але мы згубілі лёгацэнтрычную паэтычную культуру, бо першае было *мен* — *mintis* — рацыянальнасьць, якая дапамагае захаваць пасад, аседласьць. Тут рацыянальнасьць толькі дапамагае, бо эмацыйнасьць — гэта эклектычнасьць, стыхія, яна ўсё раскідае і чалавек ператвараецца ў валацугу-падарожніка, чалавека без радзімы. Так што Менск для мяне — чыста маё. Для літоўца Менск — чыста яго слова. І калі вы будзеце казаць, што Вільня ваша, я буду казаць, што Менск мой...

Калі я гляджу на Захад, я павінен адчуваць, ці ёсьць у мяне за сьпінаю формы мінуўшчыны і ці зьяўляюся я пераносчыкам гэтых формаў з учарашняга. А люблю я гэтыя формы, як прынцып тастамэнту. Таму беларуская праблема для мяне — праблема чалавечай пераемнасьці.

**ШУПА** Ці няма ў літоўцаў такога комплексу, як у нас — ёсьць такі комплекс, калі расейцы нам кажуць — *да мы же братья*... Калі беларусы кажуць пра сваю генэтычную блізкасьць да літоўцаў, пра этнаграфічную непадзельнасьць, ці не імкнуцца літоўцы ў звычайнай сьвядомасьці адштурхнуцца, як мы адштурхоўваемся ад расейцаў, якія нас залічваюць у свае браты... Ці не падобная тут сытуацыя?

**ДАЎНІС** Не, літовец, напэўна, на паляка так глядзіць і адштурхоўваецца ад паляка, які ўвесь час хоча даць літоўцу ўрокі культуры, заключыць у свае абдымкі. Палякі зусім не разумеюць літоўскіх праблем. Ім трэба даказваць, што літовец любіць Вільню. Я ня ведаю, яны барбары, калі ім трэба такія рэчы даказваць. Яны думаюць, што мы мелі Вільню 600 гадоў назад і больш нічога нас ня зьвязвае. Многія літоўцы глядзяць на Вільню так, але я кажу цяпер за тых літоўцаў, якія любяць Вільню, і хочуць, каб палякі гэта зразумелі. А на беларусаў... Яны яшчэ зьліваюцца ў адзін гэты славянскі кацёл. І на беларусаў глядзяць як на нацыю, якая мае той жа экспансыяністкі інстынкт, што і ўсе вялікія нацыі. А славяне — вялікія нацыі і яны, маўляў, рана ці позна нас тут праглынуць. Хочуць праглынуць рускія, палякі, беларусы... Таму калі мы хочам нэўтралізаваць гэта, мы павінны выдзяляць у гэтым славянскім хоры беларусаў, як унікальную нацыю, як асобу.

**ШУПА** Гэта той жа штамп — славяне й Расея. Для беларуса слова «славянін»... першае, што прыходзіць у галаву — гэта славак, чэх, славенец. А Расея — гэта далёкая славянская пэрыфэрыя, самая неславянская з усіх славянскіх нацый. Расейская нацыя ў корані мае не этнічную прыкмету, як мы, вы, эстонцы, а этатычную. Пушкін рускі, Лермантаў рускі, хіба што Хасбулатаў не зусім... Для расейскай сьвядомасьці гэта нармальна, для беларускай — не. З культурай тое самае. Расейская імпэрская культура ўбірае ў сябе ўсё й не адрозьнівае. Для беларусаў Самуіл Плаўнік заўсёды быў і застаецца трошкі наводшыбе. Хоць ён быў супэрбеларус у сваёй творчасьці. Усё адно гэтая творчасьць не ўлілася ў поўнай меры. Эстонцы — зусім на другім, на процілеглым полюсе, там нават этнічнае эстонскае, якое па нейкіх прычынах аддалілася — яно не прымаецца. Праз тры пакаленьні вяртаецца — і не прымаецца. У нас характэрная асаблівасьць. Нашы культуры ствараліся, ствараюцца зусім нядаўна і як бы штучна ўзнаўляюцца па нейкіх расплывістых узорах. 19 стагодзьдзе — фактычна пачатак стварэньня нашых нацый і культур у сёньняшнім сэньсе. Таму, відаць, і мы і вы так занятыя сабою. Няма часу (а беларусам — і сілаў, энэргіі) глядзець па бакох. І плюс гэтае стаяньне літоўцаў сьпінаю на ўсход...

**ДАЎНІС** ...і для збліжэньня ніякія сьвяты паэзіі, фэстывалі культуры не дапамогуць.

**ШУПА** Толькі нешта жывое, рэальнае, накшталт канкрэтнага сумоўя.

**ДАЎНІС** Адно слова вельмі часта ўсё вырашае, адзін верш, адна кніга. Напісаць эсэ пра песьню беларускай бабулі, у якой я адчуў бы яшчэ літоўскую гаворку...

**ШУПА** ...мэлёдыю дык пэўна...

**ДАЎНІС** Так, і нават у сэмантыцы недзе знайшоў бы напэўна гэтае сумоўе, я напісаў бы кнігу эсэ і... Адна кніга, адзін верш можа многае перавярнуць. Таму я зь вялікай сымпатыяй на вашу газэту гляджу, бо ў вас ёсьць нэрв — чыста аўтэнтычны, які вас сынтэзуе... Жывая творчая зьява. Вам лягчэй, таму што Вільня ня ваша, а літоўцам цяжэй, таму што Вільня іх. Яны павінны яе ня толькі любіць, як вы, але яшчэ й дбаць — матэрыяльна, фізычна. Любіць Ерузалім здалёк лягчэй, чым прымаць усю адказнасьць чыста дзяржаўную. Я кажу, што літоўцы ня так любяць Вільню, як яны павінны яе любіць.

**ШУПА** Наколькі ўвогуле літоўская культура засвоіла Вільню, наколькі Вільня адчуваецца як свая? Іншы раз ствараецца ўражаньне, што пакуль — на ўзроўні этыкетак.

**ДАЎНІС** Цяжка сказаць. Кожная эпоха мае сваю ступень сэнтымэнтальнасьці. Тут за пасьляваенны час вырасьлі тры пакаленьні людзей чыста віленскіх. Мая жонка — вільнянка, і Вільня ў яе ў крыві. І ёсьць шмат пасьляваенных літоўцаў, у якіх Вільня ў крыві. Тут яны вучыліся ва ўнівэрсытэце, тут — цэнтральныя культурныя выданьні, тэатры й г.д. Але некалі прыйдзе чыста рэфлек-

*Працяг на старонцы 12.*

# НАШ БЕДНЫ ІНДЫВІДУАЛІЗМ

**Хорхэ Луіс Борхэс**

Ілюзіі патрыятызму ня маюць ні пачатку, ні канца. У першым стагодзьдзі нашае эры Плютарх насьміхаўся з тых, хто сьцьвярджаў, нібыта месяц у Атэнах прыгажэйшы за месяц у Карыньце; Мілтан у XVII-м зазначаў, што Бог мае звычай адкрывацца найперш Сваім ангельцам; Фіхтэ на пачатку XIX-га абвяшчаў, што мець характар і быць немцам — гэта, відавочна, тое самае. Буяюць нацыяналісты й тут; імі рухае, паводле іх, паважны й бязьвінны намер — разьвіваць найлепшыя аргентынскія рысы. Аднак жа, яны ня ведаюць аргентынцаў; у спрэчках яны звычайна азначаюць іх у залежнасьці ад нейкага зьнешняга факту; гішпанскіх канкістадораў (скажам) або нейкай уяўнай каталіцкай традыцыі або «саксонскага імпэрыялізму».

Аргентынец, у адрозьненьне ад паўночнаамэрыканцаў і амаль усіх эўрапейцаў, не ідэнтыфікуе сябе зь Дзяржаваю. Гэта можа тлумачыцца той акалічнасьцю, што ў гэтай краіне ўрады звычайна бываюць горш няма куды, або тым агульным фактам, што Дзяржава — гэта няўцямная абстракцыя[1]; пэўным ёсьць тое, што аргентынец — асоба, а не грамадзянін. Афарызмы накшталт Гегелевага «Дзяржава — гэта рэальнасьць маральнае ідэі» здаюцца яму няўдалымі жартамі. Створаныя ў Халівудзе фільмы зноў і зноў прапануюць для ўсеагульнага захапленьня гісторыю чалавека (звычайна журналіста), які завязвае сяброўства з крымінальнікам, каб пасьля здаць яго паліцыі; вось жа аргентынец, для якога сяброўства — сьвятое пачуцьцё, а паліцыя — якраз тая мафія, адчувае, што гэтыя «герой» — страшны нягоднік. Яны адчуваюць разам з Дон-Кіхотам, што «кожны сам мусіць адказваць за свае грахі» і што «нядобра, каб прыстойныя людзі былі катамі іншым людзям, да якіх ім і справы няма» (*Кіхот, I, XXII*). Ня раз, напаткаўшы пустыя сымэтрыі гішпанскага стылю, я падазраваў, што мы безнадзейна розьнімся ад Гішпаніі; гэтых двух радкоў з Кіхота дастаткова, каб пераканаць мяне ў памылцы; яны нібы спакойны й таемны сымболь нашае роднасьці.

Гэта глыбока пацьвярджае адна ноч з аргентынскае літаратуры: тая адчайная ноч, у якой сэржант вясковай паліцыі крыкнуў, што не дазволіць забіць адважнага чалавека, і кінуўся біцца супраць сваіх салдатаў, поплеч з дэзэртэрам Мартынам Фіеро.

Сусьвет для эўрапейца — гэта космас, у якім кожная рэч найдакладнейшым чынам адпавядае выконванай ёю функцыі; для аргентынца сусьвет — гэта бязлад. Эўрапеец і паўночнаамэрыканец лічаць, што кніга, якая заслужыла нейкую прэмію, мусіць быць добрая; аргентынец дапускае, што яна можа быць і дрэнная, нягледзячы на прэмію. Увогуле аргентынец не давярае акалічнасьцям. Ён можа ня ведаць легенды пра тое, што ў чалавецтве заўсёды ёсьць трыццаць шэсьць справядлівых — *Ламэд Вуфнікаў* — якія ня ведаюць адзін аднаго, аднак якія патаемна трымаюць сусьвет; калі ён пачуе яе, яго ня зьдзівіць, што тыя шляхотныя людзі безабліччыя й безыменныя... Яго народны герой — гэта чалавек, які адзін змагаецца з цэлым аддзелам, рэальна (Фіеро, Марэйра, Орміга Нэгра), патэнцыяльна або ў мінулым часе (Сэгундо Сомбра). Іншыя літаратуры не засьведчылі аналягічных фактаў. Разгледзім, для прыкладу, двух вялікіх эўрапейскіх пісьменьнікаў: Кіплінга й Франца Кафку. На першы погляд, паміж імі няма нічога агульнага, аднак тэма аднаго зь іх — апраўданьне парадку, нейкага ўвасабленьня парадку (дарога ў *Kim*, мост у *The Bridge-Builders*, рымскі мур у *Puck of Pook's Hill*); тэма другога — невыносная й трагічная адзінота таго, каму не стае месца, хоць бы й найсьціплейшага, у сусьветным парадку.

Могуць сказаць, што я тут адзначыў толькі нэгатыўныя або анархічныя рысы; могуць дадаць, што яны не надаюцца для палітычнага вытлумачэньня. Я наважуся сьцьвердзіць адваротнае. Самая надзённая праблема нашае эпохі (абвешчаная з прарочай яснасьцю ўжо амаль забытым Спэнсэрам) — паступовае ўмяшаньне дзяржавы ў дзеяньні асобы; у змаганьні з гэтым злом, якое завецца камунізмам і нацызмам, аргентынскі індывідуалізм, дагэтуль марны й шкодны, знойдзе сваё апраўданьне й абавязак.

Без надзеі й з настальгіяй я думаю пра абстрактную магчымасьць партыі, якая была б нечым блізкая аргентынцам; партыі, якая б паабяцала нам (скажам) сьціслы мінімум кіраваньня.

Нацыяналізм хоча зачараваць нас вобразам неадчэпна назольнай Дзяржавы; гэтая ўтопія, калі б яна была ажыцьцёўленая на зямлі, мела б збаўчую добрасць у тым, што змушала б усіх прагна жадаць і ўрэшце збудаваць яе антытэзу.

*Буэнас Айрэс, 1946*

[1] Дзяржава безасабовая: толькі аргентынец адчувае нейкае асабістае да яе дачыненьне. Таму для яго крадзеж дзяржаўных грошаў не складае злачынства. Я засьведчаю факт, не апраўдваючы яго й не прабачаючы.

**Пераклаў з гішпанскай SS**

# БРАТНЯЯ МАГІЛА

*Артыкул зь ірляндзкага часопіса «Graph», 12/1992*

**Пітэр Сэр**

Нядаўна мне давялося ўзначаліць сэмінар «Новыя пэрспэктывы ў эўрапейскай паэзіі» — з нагоды прэзэнтацыі ў Дубліне італійскае анталёгіі эўрапейскае паэзіі[1]. Напярэдадні ўвечары адбылося чытаньне. Была дзесятая гадзіна нядзельнай раніцы, нейкая дрыготкая імгла ападала разам з сонечнымі промнямі на рэдкую публіку. Эўропа здавалася далёкаю. У сьпісе прамоўцаў былі два італійскія паэты (Фабіо Доплікер, рэдактар анталёгіі, і Валерыя Россэлла), ангельскі паэт Чарлз Томпсан, нямецкі паэт і рэдактар Міхаэль Шпаер і [ірляндзкая паэтка] Элен Ні Хуленань. Тэмай нашае дыскусіі фактычна быў падзагаловак Доплікеравай анталёгіі, якая сабрала на больш чым тысячы старонак творы паэтаў з чатырнаццацёх краінаў.

Доплікер у гутарцы і ў друку выказаў больш акрэсьленае ўяўленьне пра Эўропу і эўрапейскіх паэтаў, чым уяўляе сабе паэт або крытык тут [у Ірляндыі]. Слова Эўропа адвольна ўжываецца для азначэньня даволі спэцыфічнай інтэлектуальнай і духовай Бацькаўшчыны. Напрыканцы свайго ўступу, прыкладам, рэдактар выказвае спадзяваньне, што ягоная анталёгія станецца «сродкам новага адкрыцьця Эўропы, якую мы ўсе любім, Эўропы талерантнасьці й свабоды, культуры, мастацтва, паэзіі»[2]. Гэтая цудоўная, хоць і ўяўная тэрыторыя йснуе недзе ў супольных абдымках Эўропы як Эўрапейскае супольнасьці ды ў палітычным і эканамічным змаганьні кантынэнту ўзору пост-1989.

Доплікер усяляк адмяжоўваецца ад вузкіх поглядаў на Эўропу як толькі Заходнюю Эўропу, якую ён прыпадабняе да Фаўста: «прагнучы фальшывае маладосьці, яна хацела заключыць умову з д'яблам, каб перажыць новую гісторыю, без свае душы; прынамсі безь яе часткі — славянскіх, прыдунайскіх і інш. культураў»[3]. Ягоная кніга ўлучае значныя падборкі твораў з дафаўставай Эўропы: Польшча, Югаславія (слова, тэрмін годнасьці якога ўжо скончыўся), Баўгарыя, а таксама тое, што ў зьмесьце ўсё яшчэ пазначана «СССР». (Сучасная Эўропа гэтаксама цяжкая праблема для ўкладальнікаў анталёгіяў, як і для кіраўнікоў футбольных клюбаў).

Эўропа шмат у чым — паняцьце хімэрычнае. Аднак менавіта ў гэтай яе няўлоўнасьці, яе бязладнай шматмернасьці Доплікер знаходзіць свой сэнс, што вынікае зь ягонага погляду на мову, на слова як на нейкую этычную падставу насуперак, а можа й дзякуючы гісторыі моўнае барацьбы, прыгнечаным меншасным гаворкам, «афіцыйным» рабочым мовам або дальнім галінам славянскай або фіна-вугорскай разнастайнасьці. Прыстаўкі «мульты-» і «плюры-» разам з асьцярожнымі агульнікамі «разнастайнасьць» і «шматаблічнасьць» уваходзяць сёньня ў асноўны лексыкон новае Эўропы. «Вялікае багацьце эўрапейскае паэзіі палягае ў колькасьці й разнастайнасьці моваў, якімі ў ёй гавораць»[4]. Такое сьцьверджаньне выклікае некалькі пытаньняў. Ці будзе цікава або карысна, улічваючы тую разнастайнасьць, на якую спасылаецца Доплікер, увогуле думаць у катэгорыях «эўрапейскай» паэзіі?

А хто, уласна кажучы, мае доступ да тае разнастайнасьці, у якой палягае багацьце? Неспэцыяліст, які не валодае, скажам, тузінам найбольш пашыраных эўрапейскіх моваў, мусіць пакладацца на тое, што зроблена даступным на ягонай мове; гэта значыць, мусіць залежаць ад гатовасьці і ўменьня перакладчыка перадаць пэўную частку гэтага скарбу; мусіць залежаць у вырашальнай ступені ад тонкай палітыкі перакладаў, асабліва ад выбару перакладаных аўтараў. Як ні дзіўна, нягледзячы на нашае ўяўнае бяспамяцтва што да «страчанай» Эўропы, апошнімі гадамі ў перакладах дамінуюць якраз усходнеэўрапейскія паэты й раманісты. І сапраўды, сёньня цяжэй знайсьці сучаснага францускага або гішпанскага паэта, чым прадстаўнічых аўтараў з Вугоршчыны, Польшчы, Чэхіі. Голуб, Гэрбэрт, Бландыяна, Мілаш, Ружэвіч, Сарэску, ня кажучы пра шматлікія анталёгіі польскай, чэскай, вугорскай і г.д. паэзіі, цяпер лёгкадаступныя, амаль да тае ступені, што шмат для каго (асабліва сярод паэтаў) перакладная паэзія аўтаматычна стала ўспрыймацца як паэзія Ўсходняй або Цэнтральнай Эўропы.

Гэтаму паспрыяла шмат фактараў, не апошнім зь якіх была дзіўная сэнтымэнтальнасьць, якая злучае ў сабе страту даверу да зьместу зь дзіўнай цягай да пакутаў. Для значнае часткі зьместава арыентаванай сучаснай крытыкі сымптаматычна тое, што найчасьцей яна нараджаецца ў атмасфэры, зараджанай маральнымі імпэратывамі. Мноства нядаўніх спрэчак аб паэзіі на гэтых выспах — і ў ЗША — засяроджваліся вакол таго, што ў выніку выглядала трывіяльнасьцю: трывіяльнасьці зьместу, нясьмеласьці памкненьняў, звужэньня паэтычных даляглядаў.

Гэтая ўяўная прыземленасьць робіцца больш відавочнаю пры параўнаньні з паэтычнымі культурамі, дзе адчувальна дзеяць магутныя маральныя імпэратывы, дзе роля паэзіі зьвязваецца з барацьбою народаў, дзе маральны цяжар, а значыць і маральная сіла паэзіі выяўляюцца нагэтулькі значна, што, здаецца, пакідаюць ангельскіх, ірляндзкіх або амэрыканскіх паэтаў і крытыкаў плёхацца ў лужынах іхных дробных клопатаў і кідаць зайздросныя позіркі на ўсход зь яго маральна прывабнымі, хоць і цьмяна зразумелымі культурамі Мілаша й Ратушынскай. Хацелася б ведаць — куды гэтыя паэты й крытыкі будуць глядзець цяпер, калі паэзія на Ўсходзе, здаецца, прыймае на сябе ролю, знаёмую нам з нашых культураў. У нядаўнім нумары *TLS [The Times Litterary Supplement]* была надрукаваная камічная справаздача з дэбатаў, арганізаваных інстытутам Сучаснага Мастацтва ў Лёндане й названых «Паэзія ў наступным тысячагодзьдзі/Частка першая», з удзелам Маргарэт

[1] *Antologia Europea, Le prospettive attuali della poesia in Europea,* edited by Fabio Doplicher, Quaderni di Stilb, Italy, 1991.

[2] «Un' Antologia, Una proposta», introduction to *Antologia Europea,* p.7.

[3] Ibid, p.5.

[4] Ibid, p.6.

Ян Бжэхва

# ПОМСТА

Як пірат, як заваёўнік, ува ўсіх навідавоку,
Замест ветразя, цябе я разапну на цьвёрдай рэі,
У аголенае цела ўп'юцца гострыя вяроўкі,
Твае вушы прасьвідруе сьвіст прадоньняў і завеі.

Валасы твае разьветрыць мокры подых навальніцы,
Будзе віхар рваць і шарпаць грудзі, кволыя ад зморы,
Каб глядзелі ў змрок нязводна неабмыльныя вачніцы,
Каб вяла мяне на бітвы і рабункі цераз моры.

Як палотнішча на мачце, сонца скуру тваю спаліць,
Будуць енчыць твае вусны, спляжыць дождж твае прынады,
Рукі зробяцца шнурамі, сэрца стук — ўсплёскам хвалі,
Будзем разам Атлянтыды адкрываць за даляглядам.

Хай грот-мачту, бы канаты, абвіваюць твае сьцёгны,
Разамкнёныя калені хай лунаюць, бы штандары,
Паплывем у вір страшлівы, дзе скавычуць штормаў стогны,
Ў скавытаньне, невяртаньне, дзе трухлее дых карсара.

Ведаю, што ты — віхура, што нянавісьць тваіго цела
Мною ўзьнятая праз буру, панясе мяне ў край сьмерці,
У якім — разгадка мора; паімчыш мяне зьлюцела
За найдальшыя бязьмежжы да найбольшай крутаверці.

З караблямі ўсіх флятылій у твой гонар біцца буду,
За армадаю армаду патаплю й параскідаю,
Дасягне глыбінь трывога, мора ўсьпеніцца ад спуду,
Толькі ўжо пра нас з табою аніхто не прыгадае.

Абмінем мы ўсе фіёрды, выспы, сушы і ўзьбярэжжы,
Ўсе ад Поўначы да Поўдня акіяны прамінем мы,
Буду бачыць, як вятрыска тваё цела трэпле й рэжа,
Буду слухаць, як галосіць у бясьсільлі твая немач.

Нават там, за крэсам помсты, калі ўжо мая судзіна,
Натыркнуўшыся на скалы, рыфам днішча прасьвідруе,
Ветразі паапускаю ўсе, апроч цябе адзінай,
І пайду на дно з табою, і да сьмерці не дарую.

Пераклаў з польскай Алег Мінкін.



*Здымак Алены Адамчык.*

Этвуд, Міраслава Голуба, Эла Алварэса і Адама Чарняўскага і пад старшынствам Тома Поліна:

*Неўзабаве разгарэлася спрэчка паміж Этвуд і Алварэсам. Этвуд хваліла паэтаў «за кратамі або на лініі агню». Алварэс, спасылаючыся на радкі з свайго артыкула ў папярэднім TLS «Усходнеэўрапейская паэзія й радыкальны шык», папракнуў заходніх паэтаў за іх «палымянае жаданьне быць кінутымі ў турму». Этвуд пагардліва адказала: «Англія — яшчэ ня ўвесь сьвет, як бы вас гэта ні зьдзіўляла». Алварэс разважаў пра адносна маламікія ацалелыя абшары рэпрэсіяў: Кітай, Паўночны Віетнам, Кубу, ангельскія факультэты амэрыканскіх унівэрсытэтаў...*[5]

Алварэсаў сьпіс няцяжка было б дапоўніць, аднак уяўленьне аб тым, што палітычныя рэпрэсіі — неабходная перадумова для добрай паэзіі, нагэтулькі ж сьмешнае, наколькі пашыранае. Не прымяншаючы дасягненьні паэтаў з Усходняе Эўропы, адзначу, што толькі дзіўны духовы правінцыялізм можа ўспрыймаць гэтыя дасягненьні зь недарэчнай зайздрасьцю. У ім выяўляецца таксама й няменш дзіўная адсутнасьць веры ў самую паэзію. Калі паэзія — гэта толькі функцыя пэўных акалічнасьцяў, тады якое ж гэта мастацтва?

Пабочны прадукт такіх поглядаў — тое, што зноў і зноў да перакладзеных тэкстаў ставяцца так, быццам яны былі напісаныя па-ангельску, быццам сам факт іхнае перакладзенасьці ня мае значэньня і ўся іх маральная сіла была перанесеная некранутаю ў ангельскі канон. Крытыкі, накшталт Тома Поліна, могуць разважаць, прыкладам, пра Ружэвіча як майстра вобразу й мовы гэтак, нібы сам факт, што яго творы былі напісаныя па-польску, проста выпадковы. Магчыма, Ружэвіч тут ня лепшы прыклад. Аднак, калі да нас даходзіць сіла паэзіі Ружэвіча, Гербэрта або Голуба, дык у значнай ступені дзякуючы таму, што іх паэзія настолькі бляклая, голая, сьціплая й парабалічная, што паддаецца перакладу. Што ж сказаць пра іншых, чые галасы мы ня можам чуць, бо іх непарыўная повязь з багацьцем іх моваў робіць іх амаль недаступнымі? Варта прынамсі прызнаць, што паэзія й мова, у якой яна створаная, злучаныя між сабою.

Прызнаць бабілёнскую, выбуховую прыроду таго, што мы называем Эўропай, — гэта, магчыма, пачаць разумець, што яна магла б для нас значыць. Прынамсі ў паэтычным значэньні зацяганы выраз «Эўропа рэгіёнаў» мае нейкі сэнс. Укладальнік *Antologia Europea* парупіўся прадставіць, прыкладам, каталёнскую, басконскую й галісійскую паэзію побач з кастыльскай. Яшчэ больш нязвыкла разьдзел францускай паэзіі падзелены на пяць розных рэгіёнаў: Эльзас, Брэтань, Поўнач, Парыж і Праванс — выбачэньне за стагодзьдзі жорсткага цэнтралізму. Італія ўяўляе сабой адваротную праблему; краіна ўжо настолькі падзеленая ў сабе, з рэгіёнамі моўна й культурна адрознымі, дзе большыня паэзіі напісаная на адным з соцень яшчэ жывых дыялектаў, што ставіць цяжкія патрабаваньні да сумленнага і ўважлівага ўкладальніка.

Як ні дзіўна, гэтая арыентаваная на рэгіянальнасьць кніга хібіць, калі справа даходзіць да гэтых выспаў. Словы Ангельшчына, ангельскі, Брытанія, брытанскі ўжываюцца папераменна, не ратуе й загаловак разьдзелу — «Розныя кірункі ангельскае паэзіі», бо ў яго ўлучаныя такія неангельскія творцы, як Р.С.Томас, Сорлі Маклін, Эдвін Морган, Том Полін і Мэд МакГукіан. Чым кіраваўся ўкладальнік, улучаючы Джона Х'юіта ў ірляндзкі аддзел, а Мэд МакГукіан і Тома Поліна ў ангельскую паэзію, зразумець немагчыма, хоць за гады, пражытыя мною ў «Эўропе», я стаміўся ад спробаў растлумачыць тое, што назіральнікам з Кантынэнту здаецца пэдантычнымі перабольшаньнямі.

Цяпер 10.30, і наша дыскусія за круглым сталом — крыху сапсаваная тым, што круглага стала мы так і не атрымалі, а сядзім за васьміфутавым прастакутнікам, цэдзячы праз зубы спансараваную італійцамі валу — памалу цягнецца далей. Я пытаюся ў Чарлза Томлінсана, што значыць Эўропа для яго як ангельскага паэта, і ён красамоўна прамаўляе пра плённае ўзаемаапладненьне паміж Ангельшчынай і Італіяй ад Чосэра, праз Шэйкспіра, рамантыкаў, да Эліота і Паўнда. Італійцы таксама згадваюць пра ўплыў Эліота, і мяне зноў уражвае як, калі мы пачынаем гаварыць пра ўплыў аднае культуры на другую, гаворка заўсёды пераходзіць на мінуўшчыну. Ці гэта азначае Эўропа для кожнага з нас: кананічная мінуўшчына, якую мы спрабуем нагнаць? Ці маем мы якое рэальнае дачыненьне да таго, што адбываецца цяпер, па-за рытуальнымі эўрапаклёнамі?

Праект накшталт Доплікеравага мог бы стацца якраз такой справай, але адной зь невялічкіх іроніяў гэтае раніцы было тое, што ягоны праект быў даступны толькі тым, хто валодае італійскаю моваю: гэта аднамоўная анталёгія і ў любым выпадку сёньня ў Ірляндыі недаступная. Ня будзе яна шырока даступная і ў Італіі: яна выйшла ў адным з тых адважных маленькіх выдавецтваў, на якіх па ўсёй Эўропе трымаецца справа літаратурных перакладаў.

Паэзіяй, як і ўсім астатнім, рухаюць рынкавыя сілы, а рынак не пацерпіць шмат панэўрапейскіх амбіцыяў. Не субсыдыяваная болей дзяржаўным умяшаньнем ірляндзкая ялавічына, як мы ведаем, мусіць сёньня змагацца за свае месца на паліцах супэрмаркетаў у Нюрнбэргу й Намюры. Ірляндзкая паэзія цяпер у аналягічнай сытуацыі, яна павольна працякае з возера дзяржаўнага ўмяшаньня ў малыя рынкі, якіх могуць дасягнуць кнігі накшталт *Antologia Europea*. Мы не адмовіліся б і ад большага, як не адмовіліся б ад таго, каб мець больш эўрапейскай паэзіі як у арыгінале, так і ў перакладах, на паліцах нашых кнігарняў.

Пераклад: BKZ.

[5] *TLS, May 22nd 1992, p.20.*

